НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 41 (830) 6 лістапада 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАР... Я ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыва... ...ы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Край Беларусі

Янка Купала

Я мужык-беларус, —
Пан сахі і касы;
Цёмен сам, белы вус,
Пядзі дзве валасы.

З цяжкай працы маей
Карыстаюць усе,
Толькі мне за яе
Няма дзякуй нідзе.

Эй, каб цёмен не быў,
Чытаць кніжкі умеў, —
Я б і долю здабыў,
Я б і песенькі пеў!

Я б патрапіў сказаць,
Што і я — чалавек,
Што і мне гараваць
Надаела ўвесь век.

1905—1907

Рэпартаж Сяргея Гудзіліна з Далёкага Усходу — Хоцімска.

Старонка 6.

## Гамяльчук Юрый Рубцоў выйшоў на Дзяды ў майцы «Лукашэнка – сыходзь».

Старонка 3.

## Забойства ў імя ідэалу Гутарка з анарэксічкай, якая цудам выжыла.

Старонка 9.

Падпішыся на 2014 Выйграеш!

Старонка 2.

# Сын чыноўніка пракаціў мінчука на капоце

**Справу закрылі** за «недаказанасцю», аднак пракуратура аднавіла расследаванне.

Асістэнт адной з кафедраў БДТУ Мікалай Гораў 31 жніўня вяртаўся з Літвы ў Беларусь праз памежны пераход «Прывалка» пад Гроднам. За 5—10 метраў да пачатку тэрыторыі Беларусі па сустрэчнай паласе ўздоўж чаргі праехаў аўтамабіль Audi Q7, які акаціў швагра Мікалая вадою з лужыны і ўшчаміўся ў прастору паміж ягоным і папярэднім аўто.

«Мы выйшлі, каб даведацца прычыны такіх паводзінаў. Аднак кіроўца ад пачатку паводзіў сябе неадэкватна. Мне і некаторым сведкам падалося, што ён быў у стане ап'янення ці ўзбуджанасці. Адбылася спрэчка, у выніку якой кіроўца Audi грукаў па капоце нашай Volvo. Я стаў перапісваць рэгістрацыйны нумар Audi, але кіроўца раптам завёў рухавік і паехаў. Бамперам мяне збіла з ног, і я паваліўся на капот», — расказвае Мікалай.

Вось так, з пасажырам на капоце, кіроўца і паехаў у бок беларускага КПП. Ён некалькі разоў тармазіў і паскараўся, каб скінуць Мікалая, аднак той трымаўся. «У салоне Audi знаходзіліся жанчына і двое дзяцей кіроўцы. Жанчына спрабавала прымусіць яго спыніцца, перахапіць стырно, але ёй гэта не ўдалося. У выніку за некалькі метраў да шлагбаума ён рэзка спыніўся, а я зваліўся на зямлю», — узгадвае Мікалай. Судмедэкспертыза засведчыла ў Горава траўму правага локця, што аднеслі да лёгкіх цялесных пашкоджанняў.


Максім Русанаў.


Аляксандр Русанаў.

### Міліцыянт парваў пратакол

Кіроўца Audi, не звяртаючы ўвагу на шакаванага Мікалая, падышоў да памежніка і запатрабаваў прапусціць яго без чаргі праз наяўнасць пропуска. Хоць прад'явіць дакумент не змог. Недзе праз 30 хвілін на месца прыбыў экіпаж ДАІ і мясцовы ўчастковы. Кампанію ім склаў Аляксандр Русанаў, намеснік старшыні Гродзенскага аблвыканкама. Як высветлілася пазней, за рулём дарагога ўсёдарожніка знаходзіўся сын Русанава Максім, дырэктар кампаніі па продажах будматэрыялаў.

«Гарадзенцы яго пазналі, ды і ён не ўтойваў сваю асобу. Русанаў-старэйшы трымаўся воддаль. Потым ён паклікаў да сябе дашнікаў і начальніка КПП. У выніку дашнікаў не пусцілі за шлагбаўм, маўляў, у іх не было шэнгенскай візы. Неўзабаве дашнікі з'ехалі, не папярэдзіўшы нас», — кажа Мікалай.

Пратакол пагадзіўся складаць участковы, аднак Русанаў паклікаў «на размову» і яго. Пасля кароткай гутаркі ўчастковы парваў пратакол, вярнуўся да пацярпелых, працягнуў ім чысты аркуш паперы і прапанаваў запісаць усё ад рукі. Гораў і яго сваякі апісалі здарэнне, аднак гэту паперу да матэрыялаў справы не далучылі. Участковы таксама адмовіўся запісаць паказанні сведак, хоць некаторыя для гэтага спецыяльна вярнуліся, пакінуўшы аўтамабіль ужо на беларускай стаянцы.

**Супрацоўнік Тэхналагічнага ўніверсітэта дабіваецца, каб сына старшыні Гродзенскага аблвыканкама пакаралі**

### Сам заскочыў на капот

Не знайшлося падтрымкі і з літоўскага боку. Спачатку начальнік КПП пацвердзіў швагру Мікалая, што камера №20 зафіксавала, як машына збіла чалавека. Аднак пасля сітуацыя рэзка змянілася.

«Мы выклікалі літоўскую паліцыю, бо ДТЗ было здзейснена на тэрыторыі Літвы. Аднак тым часам да мяжы пад'ехаў чорны джып. Яго пасажыры пагутарылі з супрацоўнікамі КПП і з паліцэйскімі, якія прыехалі туды. Памежнікі раптам змянілі сваю пазіцыю: сказалі, што на відэа бачна, як я сам заскочыў на капот. І ўвогуле вырашылі нічога не рабіць, бо адбыўся канфлікт двух грамадзян Беларусі: маўляў, разбірайцеся самі.

Мікалай паехаў пісаць заяву ў камісарыят у Друскеніках. Неўзабаве прыйшоў адказ: у заведзенні крымінальнай справы адмовіць. «Вось так літоўцы закрылі гэту справу хутчэй за нашых сілавікоў», — каментуе Мікалай.

### СМС-позва

Па вяртанні ў Мінск Гораў напісаў заяву ў міліцыю. Яе перанакіравалі ў Гродна.

Як аказалася, з усяго інцыдэнта справу завялі толькі за «наўмыснае знішчэнне ці прычыненне шкоды маёмасці», то бок за пашкоджанне Русанавым-малодшым капота аўтамабіля Горава. Паказанні сведкаў аб «паездцы» на капоце Audi Q7 пакінулі без увагі.

«Следства праходзіла марудна, — скардзіцца Мікалай. — Тэрмін адказнасці па гэтым правапарушэнні — два месяцы. Здавалася, следчы Андрэй Музычка рабіў усё магчымае, каб дацягнуць да канца гэтага тэрміну. А ў самым канцы кастрычніка за два дні да пасяджэння мяне выклікалі ў суд... смс-паведамленнем.

На пасяджэнні 31 кастрычніка суддзя толькі пыталася, ці бачылі сведкі, як Максім Русанаў біў па капоце Volvo. Гэта бачыў толькі адзін чалавек, таму справу закрылі за недаказанасцю факта, хоць наяўнасць пашкоджання пацвярджае заключэнне аўтатэхнічнай экспертызы.

### Хуліган

Пасля розгаласу ў інтэрнэце Мікалай напісаў заяву ў Генпракуратуру. 4 лістапада стала вядома, што гродзенская пракуратура завяла ў дачыненні Русанава крымінальную справу па артыкуле «хуліганства».

Варта адзначыць, што Максім Русанаў таксама падаваў іск супраць Горава. Паводле вынікаў экспертызы, капоту ягонага аўтамабіля была нанесеная шкода ў памеры 8 мільёнаў рублёў. Аднак было вызначана, што пашкоджанні былі нанесены ненаўмысна.

Кіроўца Audi Q7 сваёй віны ў ДТЗ не прызнае. Ён кажа, што Гораў спецыяльна заскочыў на капот ягонага аўтамабіля. «Напэўна, хацеў дыскрэдытаваць маё імя. Але я не вінаваты, бо мяне літоўская паліцыя адпусціла, а іх — аштрафавала», — тлумачыць ён. На пытанне, чаму ён правёз Горава на капоце каля 100 метраў, што пацвердзілі шматлікія сведкі, Русанаў адказаў: «Вы размаўлялі са сведкамі? Не? А я размаўляю». На гэтым сын намесніка старшыні аблвыканкама спыніў размову.

Кірыла Хілько

## Сціслa

**Наста і Зміцер Дашкевічы чакаюць дзіця**

Сустаршыня «Маладога фронту» выйшаў на свабоду 27 жніўня 2013 пасля двух з паловай гадоў, праведзеных за кратамі. Падчас зняволення ён зарэгістраваў шлюб з маладафронтаўкай Настай Палажанкай. Праз некалькі дзён пасля вызвалення адбылося сапраўднае вяселле маладых.

**Вольга Класкоўская застанецца ў турме на 7 год**

Апеляцыйны суд Швецыі скараціў ёй пакаранне на адзін год. Класкоўскую абвінавацілі ў замаху на забойства мужа — шведскага грамадзяніна турэцкага паходжання Гёкая Бэзгіна. Таксама яна павінна выплаціць былому мужу кампенсацыю каля $17 тысяч.

**«Паляўнічыя на педафілаў» затрымалі рэдактара «Вечернего Бреста»**

57-гадовы мужчына прыехаў на спатканне з хлопчыкам. У кватэры яго чакалі дужыя хлопцы, якія знайшлі ў кішэнях мужчыны прэзерватывы і змазку. Яны ж і здалі мужчыну ў міліцыю. Той даводзіць, што прыехаў, каб напісаць артыкул пра «паляўнічых на педафілаў», а сам не мае такіх схільнасцяў.

ЯМ, КМ

## Апытанне на nn.by

**Ці павінен прайсці сімвалічны судовы працэс над арганізатарамі і выканаўцамі савецкіх рэпрэсій 1920—1950-х?**

| | | |
|---|---|---|
| так | 472 | 29% |
| не | 68 | 4% |
| так, і не сімвалічны, а рэальны | 876 | 54% |
| праўды ў падручніках гісторыі і перайменавання вуліц досыць | 205 | 13% |

Прагаласавала 1621.

## Рэкамендуем

**«Дама здавала ў багаж» Маршака ў беларускім перакладзе**

Ацэньвайце і ўдасканальвайце.

Чытайце на nn.by

## Самае чытанае на nn. by 30 кастрычніка – 5 лістапада

1 У Мінску хлопец пайшоў на канфлікт з-за расійскага сцяга ў кіроўцы аўтобуса
2 Усе рэзідэнцыі прэзідэнта Беларусі: ад «Драздоў» да роднай хаты
3 Дзяды-2013. Анлайн
4 Ва ўрадзе прыдумалі, як зрабіць, каб беларус «лішні раз» не ехаў за мяжу
5 Арлоў: Пазняку пырснулі ў твар слезацечным газам, людзей пачалі збіваць
6 «Маці насіла перадачы сыну два гады пасля расстрэлу»
7 Тое, што беларускія СМІ не паказалі — фоты з сустрэчы Карза з Лукашэнкам
8 П'яны настаўнік насмерць збіў студэнтку
9 У часе шэсця ў Курапаты адбыўся інцыдэнт
10 Былы міліцыянт абслугоўвае ў сваёй краме па-беларуску




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Фотафакт**

### Трое сутак за майку

Гамяльчук Юрый Рубцоў выйшоў на традыцыйнае шэсце на Дзяды ў майцы «Лукашэнка — сыходзь», а на другім баку было напісана: «Чатыры разы прэзідэнт — не! Гэта не прэзідэнт, а цар-самазванец». Супрацоўнікі спецназа настойвалі, каб Рубцоў зняў майку, аднак мужчына адмовіўся. У выніку яго затрымалі, а на наступны дзень прысудзілі трое сутак арышту.

У жалобным шэсці і мітынгу ў Курапатах узяло ўдзел каля тысячы чалавек.

## Сямашка: Беларусь нясе вялікія страты з-за Мытнага саюза

Не паспела адгрымець мінская сустрэча прэзідэнтаў Беларусі, Расіі і Казахстана, дзе абмяркоўвалася будучыня Мытнага і Еўразійскага саюзаў, як беларускі віцэ-прэм'ер выступіў з нечаканай заявай.

«З-за недасканаласці заканадаўчай базы Мытнага саюза і Адзінай эканамічнай прасторы са шматлікімі выключэннямі і абмежаваннямі мы нясём вялікія выдаткі, часта страчваем цэлыя нішы на рынку Мытнага саюза», — сказаў Уладзімір Сямашка.

Падобныя прэтэнзіі мае і казахстанскі бок. Фактычна пагадненні ўнутры «тройкі» далі магчымасць расійскім таварам трапляць на беларускі і казахстанскі рынак, выціскаючы некаторыя замежныя аналагі. Тады ж як прадукцыя Беларусі і Казахстана не атрымала значна большы рынак унутры самой Расіі.

Сямашка прывёў у якасці прыкладу пастанову №1432 урада Расіі ад 27 снежня 2012, якая фактычна закрыла паступленне беларускай сельскагаспадарчай тэхнікі на расійскі рынак.

Уладзімір Сямашка таксама звярнуў увагу на сітуацыю, якая сёння складваецца ў Расійскай Федэрацыі і ў цэлым у Мытным саюзе па ўтылізацыйным зборы. «Нядаўна прыняты закон Расійскай Федэрацыі аб тым, што ўтылізацыйны збор будзе збірацца па краіне прызначэння. Для Беларусі, калі нічога не рабіць, гэта азначае страту канкурэнтаздольнасці», — сказаў ён.

«Стаіць задача — вырашыць гэту праблему да 1 студзеня 2015 года. Але некаторыя пытанні неабходна вырашыць значна раней. Хто б што ні гаварыў, але рынак Расіі і Мытнага саюза застаецца адным з асноўных нашых рынкаў, і мы павінны мець на ім вызначаныя і зразумелыя правілы гульні. Гэта будзе зарокам паспяховай работы нашай прамысловасці і ў цэлым народнагаспадарчага комплексу», — адзначыў Уладзімір Сямашка.

Мытны саюз — праект Уладзіміра Пуціна, які ў будучыні мае пераўтварыцца ў Еўразійскі саюз. У Беларусі шмат крытыкавалі ўступленне Беларусі ў Мытны саюз. Каб абараніць інтарэсы расійскіх аўтавытворцаў былі значна павялічаныя мыты на ўвоз машын з краін Еўрасаюза. З гэтай праблемай сутыкнуліся сотні тысяч беларусаў.

**Лявон Максюта**

## Ці адважыцца Лукашэнка прызначыць сына?

**Вакантнай стала** пасада Дзяржсакратара Рады бяспекі.

2 лістапада ў суботу кіраўнік Беларусі нечакана прызначыў Леаніда Мальцава старшынёй Памежнага камітэта. Былы старшыня Аляксандр Боечка, выглядае, проста не справіўся з пасадай. На яго не завялі крымінальнай справы і не адправілі на павышэнне. Проста залічылі ў склад Памежнага камітэта. Нічым асаблівым за паўтара года знаходжання на пасадзе Боечка не вылучыўся.

Для Мальцава пасада ў Памежным камітэце — гэта дарога на заслужаную пенсію. Ураджэнцу вёскі Віцянёўка Слонімскага раёна ўжо 64 гады. За час службы ён займаў самыя розныя пасады — ад міністра абароны да выканаўцы абавязкаў кіраўніка КДБ.

У 1996-м Лукашэнка публічна абразіў Мальцава. Калі міністр абароны выступаў перад студэнтамі Медуніверсітэта, кіраўніку Беларусі падалося, што Мальцаў нецвярозы. Ён абазваў чыноўніка п'яніцам, а праз нейкі час падпісаў загад аб звальненні. Праўда, выгнанне Мальцава доўжылася нядоўга, зломленага маральна афіцэра ўзнавілі ў сакратарыяце СНД, а ў 2000 вярнулі ў вышэйшыя эшалоны ўлады.

Мальцаў служыў адказна, аднак на самыя відныя ролі не лез. У разборках паміж сілавікамі спрабаваў не ўдзельнічаць. Людзі, якія ведаюць генерала асабіста, кажуць, што Мальцаў моцны інтэлектуальна, але вялікім аўтарытэтам не карыстаецца. Напрыклад, генерал, а потым апазіцыйны дэпутат Валерый Фралоў называе Мальцава самым перадавым афіцэрам беларускага войска.

Калі Лукашэнка раскрытыкаваў Юрыя Жадобіна за працу ў Радзе бяспекі, то разграбаць аўгіевы канюшні адправілі менавіта Мальцава. Калі ў скандал уляпаўся старшыня КДБ Вадзім Зайцаў, то часова замяняць яго таксама прызначылі Мальцава.

Разам з тым, менавіта пры Мальцаву адбыўся разгон Плошчы-2010. Найхутчэй, як кіраўнік Рады бяспекі ён мог не дапусціць гэтага.

Што такое Рада бяспекі? Яна кантралюе і каардынуе дзейнасць усіх праваахоўных органаў, рыхтуе аналітычныя запіскі на імя Лукашэнкі. Праз Раду бяспекі прайшлі ключавыя асобы ў атачэнні кіраўніка краіны — Віктар Шэйман, Урал Латыпаў, Генадзь Нявыглас.


Леанід Мальцаў.


Віктар Лукашэнка.

У склад Рады бяспекі ўваходзяць найвышэйшыя чыноўнікі як сілавога (Якабсон, Канюк, Шуневіч, Жадобін, Шаеў), гэтак і несілавога блокаў (Мясніковіч, Кабякоў, Ермакова, Харкавец).

Цяпер адзіным пытаннем застаецца, каго прызначыць Лукашэнка новым кіраўніком Рады бяспекі. Найбольш відавочнай фігурай выглядае старэйшы сын прэзідэнта — Віктар Лукашэнка. Ён доўгі час ужо з'яўляецца памочнікам Лукашэнкі ў пытаннях бяспекі. Аднак гэтая пасада, у адрозненне ад кіраўніка Рады бяспекі, непублічная. Раней Лукашэнка ці з нейкіх сваіх матываў, ці адчуваючы грамадскі рэзананс, імкнуўся не выводзіць сваіх дзяцей на публічныя пасады. Магчыма, цяпер гэтае рашэнне будзе абгрунтаванае тым, што Віктар прайшоў праз усе прыступкі па кар'ернай лесвіцы і гатовы да новых выклікаў.

Відаць, таксама нельга скідваць з рахункаў старшыню КДБ Валерыя Вакульчыка, кіраўніка справаў прэзідэнта Віктара Шэймана, міністра замежных справаў Уладзіміра Макея і намесніка кіраўніка Нацыянальнага алімпійскага камітэта Ігара Рачкоўскага.

**Зміцер Панкавец**

**Цікавы факт**

Мальцаў адзіны ў краіне кавалер ордэна Вайсковай Славы.

**Сцісла**

**Статкевічу не даюць спаць**

«Некалькі начэй запар ахоўнікі турэмнага калідора, дзе знаходзіцца камера Мікалая Статкевіча, праз кожныя 10-15 хвілін грукалі ў дзверы ягонай камеры. «Гэта можна расцэньваць як спробу не даць спаць ноччу, каб удзень падлавіць падчас сну і пакараць карцэрам», — мяркуе жонка экс-кандыдата ў прэзідэнты Марына Адамовіч.

**Баўмгертнеру пагражае да 10 гадоў**

Гендырэктару расійскай кампаніі «Уралкалій» Уладзіславу Баўмгертнеру, які абвінавачваецца ў арганізацыі махлярскай схемы, якая нанесла страты бюджэтам Расіі і Беларусі, пагражае 10 гадоў турмы.

**Тарнаўскі атрымаў ордэн**

Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў прэзідэнта транснацыянальнай карпарацыі «Руска-ўкраінскае нафтавае таварыства» Анатоля Тарнаўскага ордэнам Пашаны. Супраць бізнэсмэна дзейнічаюць санкцыі ЕС.

**Гары Каспараў папрасіў латвійскае грамадзянства**

Вядомы расійскі шахматыст, былы чэмпіён свету, а цяпер апазіцыйны палітык Гары Каспараў накіраваў ліст у латвійскі Сойм. Каспараў указвае, што яго жыццё з маладосці звязана з Латвіяй.

**ЗП**

# Гандляры паграажаюць забастоўкай?

Улады **адмяняюць кампраміснае рашэнне**, прынятае летам.

Продаж прадукцыі лёгкай прамысловасці па спрошчаным парадку будзе забаронены з 1 снежня 2013. Такую заяву зрабіў віцэ-прэм'ер Пятро Пракаповіч 31 кастрычніка.

Словы чыноўніка сталі нечаканасцю для дробнага бізнэсу — паводле папярэдніх дамоўленасцяў прадпрымальнікаў і ўладаў, ранейшы прынцып працы захоўваўся яшчэ паўгода, да 1 ліпеня 2014. Гэты было кампраміснае рашэнне, прынятае пасля летняй забастоўкі гандляроў (**глядзі ўрэзку**).

Праблемнае пытанне датычыць патрабаванняў Мытнага саюза. Згодна з імі, кожны прадавец на беларускіх рынках павінен мець дакументы, якія пацвярджаюць якасць тавара. Каб іх атрымаць, давядзецца здаваць гэтыя самы тавар на экспертызу. Колькі гэта будзе каштаваць?

Паводле падлікаў саюза прадпрымальнікаў «Перспектыва», першасная сертыфікацыя будзе каштаваць як мінімум 8 мільёнаў рублёў для кожнага прадпрымальніка. Але пры новым завозе тавару дакументы давядзецца абнаўляць.

Другі варыянт атрымання сертыфікатаў — прасіць іх у непасрэдных прадаўцоў на маскоўскіх рынках, якія, зрэшты, не маюць гэтых дакументаў таксама. На малыя партыі тавару атрымаць сертыфікаты нерэальна, тлумачаць чаўнакі, але ўсё марна.

Як заявіў Пятро Пракаповіч, «з 1 снежня... усе, хто працуе на беларускім рынку, — малыя, буйныя, сярэднія гандлёвыя сеткі і ІП — будуць працаваць па адзіных правілах і павінны будуць мець адпаведныя дакументы».

Аднак на гэтым не настойваюць і расейцы. Спецыяліст дэпартамента тэхнічнага рэгулявання Еўразійскай эканамічнай камісіі Антаніна Галаўцова заявіла, што розьнічны гандаль не мусіць рэгулявацца тэхнічнымі рэгламентамі. Пракаповіч жа гэтыя аргументы чуць не хоча, ён прапануе прадпрымальнікам для вырашэння канфлікту закупляць тавар не ў расійскіх пасярэднікаў, а ў вытворцаў.

На беларускіх рынках ужо пачаліся папярэднія праверкі: як дробны бізнэс падрыхтаваўся да новых умоваў?

Рэзалюцыя, прынятая некалькімі сотнямі прадпрымальнікаў на пазачарговым з'ездзе «Перспектывы», утрымлівае і прапанову Аляксандру Лукашэнку аб сустрэчы, і зварот у Еўразійскую эканамічную камісію, і папярэджанне аб магчымым спыненні працы. «Інфармуем ўлады краіны аб немагчымасці ажыццяўлення прадпрымальніцкай дзейнасці», — падкрэсліваецца ў дакуменце.

Наконт далейшай стратэгіі барацьбы прадпрымальнікі вырашылі дамовіцца на наступнай сустрэчы, якая мае адбыцца 25 лістапада.

**Ягор Марціновіч**




**Папярэднія забастоўкі прадпрымальнікаў**

| Час | Сутнасць | Вынік |
|---|---|---|
| Чэрвень 2013 | Супраць увядзення патрабаванняў тэхнічнага рэгламенту Мытнага саюза «Аб бяспецы прадукцыі лёгкай прамысловасці» | Увядзенне рэгламенту адкладзенае на год, пасля рашэнне перагледжанае |
| Снежань 2007 — студзень 2008 | Супраць указа, які забараніў ІП наймаць на працу работнікаў, акрамя блізкіх сваякоў | 10 студзеня ў Мінску дэманстранты рушылі на рэзідэнцыю, а пасля на некалькі гадзін перакрылі праспект Незалежнасці. Некалькі дзясяткаў актывістаў былі затрыманыя. Андрэй Кім быў асуджаны на 1,5 года калоніі, яшчэ 13 арыштаваных атрымалі ўмоўныя тэрміны. Патрабаванні не выкананыя. |
| Сакавік 2005 | Супраць сплаты ПДВ на тавар, які ўвозіцца з Расіі | Уведзены мараторый на кантроль па сплаце ПДВ да ліпеня, а пасля да жніўня 2005. |
| Кастрычнік 2002 | Супраць павышэння падаткаў, увядзення касавых апаратаў, абавязковага сацыяльнага страхавання | Пасля тыдня забастовак прадпрымальнікі вярнуліся да працы. Патрабаванні не выкананыя. |
| Люты 2000 | Супраць новых умоваў сплаты ПДВ | Першыя два тыдні лютага прадпрымальнікі баставалі, пасля вярнуліся да працы. Лукашэнка падпісаў указ аб іншай схеме сплаты падаткаў. |

Працяг тэмы

## Ільготны крэдыт Навіцкаму — банкаўская таямніца

«Наша Ніва» атрымала адказ на свой зварот у «Белінвестбанк» з просьбай патлумачыць умовы і абставіны выдзялення льготнага крэдыту былому прэм'ер-міністру Беларусі Генадзю Навіцкаму. Пра гэтую гісторыю «НН» падрабязна расказвала ў №40 ад 30 кастрычніка.

Нагадаем, у 2007 Навіцкі атрымаў рублёвы крэдыт на суму, эквівалентную $300 тысячам, пад звышільготныя 5,5%.

Як паведаміў «Белінвестбанк», гэтая інфармацыя — банкаўская таямніца, таму не бу-дзе разгалошвацца.

Намеснік старшыні праўлення «Белінвестбанка» Уладзімір Тамашэвіч удакладніў, што звесткі могуць быць пададзеныя па запытах дзяржаўных органаў, сярод якіх суды, пракуратура, Камітэт дзяржаўнага кантролю і іншыя арганізацыі.

**NN.by**



## Сцісла

### Заробкі будуць расці ў 6 разоў марудней

Такая ацэнка прыводзіцца на наступны год у падрыхтаваным чыноўнікамі праекце прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі. Мяркуецца, што сёлета рэальныя даходы вырастуць на 17,6% (гэта рост заробкаў мінус інфляцыя). Налета ж плануецца ўсяго 3%. Гэта адна з рэкамендацый прадстаўнікоў Міжнароднага валютнага фонду.

### Цягнікі даражэюць на 50%

Павялічаныя тарыфы на перавозку пасажыраў на беларускай чыгунцы. Цана праезду ў цягніках эканом-класа на рэгіянальных лініях (былыя электрычкі) павялічылася на 29%, а ў іншых цягніках унутры краіны — на 50%. Аднак папанейшаму праезд на чыгунцы значна таннейшы за праезд у міжгародніх аўтобусах.

### «Белавія» плануе адкрыць рэйс «Мінск—Вільня»

Паводле словаў гендырэктара «Белавія» Анатоля Гусарава, гэта можа здарыцца ў найбліжэйшы час. «Ёсць пэўны попыт з Літвы лётаць нашымі рэйсамі па сетцы маршрутаў, якія ёсць у «Белавія», — пераконвае ён.

### Лукашэнка дазволіў будаваць АЭС

Кіраўнік дзяржавы падпісаў указ, які дазваляе расійскай кампаніі «Атамбудэкспарт» пачынаць будаўніцтва Астравецкай АЭС. Усю падрыхтоўчую працу Беларусь ужо скончыла. Увод у эксплуатацыю першага блока запланаваны на 2018 год.

### Беларус набыў банк на Кіпры

Вытворца камп'ютарных гульняў Wargaming, заснавальнікам якой з'яўляецца беларус Віктар Кіслы, набывае 30% кіпрскага банка Hellenic. Цана ўгоды — 40 мільёнаў еўра.

**ЯМ**

Адзіны сын сям'і Цімафеевых з Наваполацка **памёр пасля затрымання** міліцыяй.

# Разрыў кішак

Амаль два гады сям'я з Наваполацка дамагаецца, каб знайшлі тых, хто вінаваты ў смерці іх адзінага сына.

Гэтая гісторыя пачалася ў снежні 2011. Многія жылі падрыхтоўкай да Калядаў і Новага года. І тое, што малады чалавек нападпітку трапіў у бальніцу, ні ў кога не выклікала здзіўлення.

27-гадовы Алег Цімафееў увечары ў нядзелю выйшаў сустрэцца з сябрам. Выпілі. Але дадому вярнуўся толькі раніцай. Збіты. «Мянты пабілі», — патлумачыў бацькам. А ўначы яго забралі ў бальніцу і прааперавалі. У бальніцы ён і памёр.

### Тупая траўма

«Я быў на працы, калі раніцай сын прыйшоў дадому, — расказвае Віктар Цімафееў. — Ліфт не працаваў, і ён ледзь падняўся на восьмы паверх, як сказаў. Увечары пытаюся, што здарылася. Падрабязнасці не расказваў. Сказаў, што піць больш не будзе, але ім гэтага не даруе. Пытаюся: хто біў? Адказвае, што патрульныя і мянты».

Уначы Алегу стала кепска. «Калі «хуткая» спыталася, якія траўмы атрымаў, назваў траўму грудзей — было цяжка дыхаць, палавых органаў — у туалет схадзіць не мог і жывот балеў».

З дому Алега забралі ў бальніцу, дзе пасля аперацыі два тыдні правёў у непрытомнасці. І памёр.

«Тупая траўма жывата, удар грудной клеткі», — паставілі дыягназ у шпіталі. Калі правялі аперацыю, пашкоджанні аказаліся сур'ёзнымі: разрыў брыжэйкі падуздышнай кішкі з адрывам яе ад кішкі і разрывы падуздышнай кішкі з амярцвеннем яе часткі, разрыў вялікага сальніка.

«Кішкі скручаныя змейкай, да іх з адной кропкі веерам ідуць нервы і сасуды. Гэта ёсць брыжэйка, — тлумачыць медыцынскія тэрміны лекар адной са сталічных бальніц. — Калі быў разрыў брыжэйкі і разрыў кішкі — значыць быў крывацёк, і ў чэраўную паражніну трапіў кал. Гэта 100% перытаніт. Чым пазней узялі на аперацыйны стол — тым менш шанцаў выжыць. Калі там былі ўчасткі амярцвення, гэта ўжо запозна. Нават калі выжыў бы — быў бы інвалід без кішак».

Прычынай смерці і стаў перытаніт (запаленне брушыны).

### Білі нагамі, рукамі…

Як сына забралі ў бальніцу, Віктар звярнуўся з заявай у міліцыю. Пачалі праверку. Самога ж Алега апытаць так і не атрымалася: праз суткі пасля аперацыі ўпаў у кому, а памёр на першы дзень Новага года ў непрытомнасці. Крымінальную справу так і не завялі.

Згодна з матэрыяламі праверкі, усё проста, хоць і не зусім ясна. 11 снежня 2011 Алег нібыта выпіў паўбутэлькі гарэлкі. На вуліцы вырашыў спусціць кола ў міліцэйскай машыне. А калі ўбачыў патруль, кінуўся наўцёкі. Па дарозе Алег двойчы паваліўся на жывот. Калі ж яго здагналі, пачаў біцца і мацюкацца. Каб уціхамірыць, яго тройчы стукнулі дубінкай па правым сцягне. Адвезлі ў выцвярэзнік, склалі пратаколы за дробнае хуліганства, з'яўленне п'яным у грамадскім месцы, непадпарадкаванне. А раніцай апыталі ў міліцыі і адпусцілі. Прычым у пастанове адзначана, што Алег ні на што не скардзіўся, за жывот не трымаўся.

Вось тут і пачынаецца самае незразумелае.

У 8.05 Цімафееў знаходзіўся ў міліцыі, а дзесьці праз гадзіну ўжо быў дома. Прычым збіты. Лёг спаць. А ўначы яго забрала «хуткая». Калі забіралі ў бальніцу, пра акалічнасці сказаў фельчару: білі нагамі, рукамі, дубінкай у пастарунку мінулай ноччу.



У Алега застаўся малы сын, якому цяпер 6 гадоў.

**Афіцыйная версія: выпіў паўбутэлькі гарэлкі і вырашыў спусціць кола ў міліцэйскай машыне »**

### Пытанні без адказаў

У бальніцы далі заключэнне, што Алег атрымаў траўму каля сутак да паступлення ў бальніцу. Калі «хуткая» забрала яго ў гадзіну ўначы, то атрымліваецца, што ён атрымаў удар у жывот падчас затрымання альбо ўжо ў выцвярэзніку. Удар, які і стаў прычынай смерці. Але хто яго нанёс?

Фельчар выцвярэзніка сведчыць, што ў Цімафеева была сярэдняя ступень ап'янення. Хоць ад выкарыстання алкатэстара ён адмовіўся, затое пагадзіўся зрабіць комплекс практыкаванняў і даў сябе агледзець. На левым сцягне — V-падобная драпіна ззаду на ўзроўні калена, драпіны на правых скроні і сківіцы. Жывот быў мяккі, не ўздзьмуты, прыкметаў пашкоджання ўнутраных органаў не выяўлена. Пульс і ціск у норме. Двойчы яго званітавала — крыві не было.

«У колькі яго забіралі з выцвярэзніка? Ёсць відэа, як яго прывезлі туды ўначы, але няма, як раніцай забіралі, — кажа бацька Алега. — Я быў у выцвярэзніку і бачыў журнал рэгістрацыі: выбыў — нібыта 9.30. Бо выпраўлена ці то 7.30, ці то 8.30. І я не магу высветліць, хто выпраўляў. Хто складаў пратакол яго выбыцця — таксама не ведаю. У дзяжурную частку яго нібыта забірала следча-аператыўная група, якая ездзіла па горадзе і якой далі загад прывезці Алега. Але людзей з той групы дапыталі толькі праз паўгода. А яны кажуць, што не памятаюць, заязджалі па яго ці не».

«У выцвярэзніку яго біць, лічу, не маглі. Па дарозе — магчыма. Выбіць прызнанне, што ён спускаў кола, маглі, — выказвае свае здагадкі Віктар. — Альбо яго ўначы забралі і да раніцы вазілі. І таму няма відэа яго прысутнасці раніцай у выцвярэзніку. Проста паставілі час выбыцця. Такі варыянт, лічу, магчымы. Яго забралі і прэсавалі».

У матэрыялах справы фігуруе прызнанне Алега, што ён спускаў кола. Бацька думае, што сына прымусілі падпісаць.

### Праігнаравалі экспертаў

Магчымымі здаюцца два варыянты. Альбо хлопца сапраўды збілі ўначы, а ў міліцыі раніцай не сталі на гэта звяртаць увагу. Альбо па дарозе дадому, за якую гадзіну, з ім магло нешта здарыцца. Вядома ж, пабіцца шмат часу не трэба. Можна і самому напароцца на якую цагліну. Але ці будзе ён хлусіць бацькам, што пабілі яго міліцыянты? Эксперты вызначылі час і прадмет атрымання траўмы: тупым цвёрдым прадметам каля адных сутак да паступлення ў бальніцу. Нанесці яе ён мог сам. Але яна «не магла ўтварыцца ў выніку падзення на плоскасці альбо пры абставінах, указаных супрацоўнікамі міліцыі», як гаворыцца ў заключэнні экспертызы.

Праўда, следчы праігнараваў дакумент. «Невядома, якім чынам і ў які часавы інтэрвал Цімафееў атрымаў цялесныя пашкоджанні, з кім праводзіў час да затрымання, якія ўстановы наведваў. Цімафееў мог атрымаць цялесныя пашкоджанні і пры іншых абставіах, чым пры затрыманні супрацоўнікамі міліцыі», — вырашыў ён. «Як не вызначаны час, калі эксперты яго акурат і абазначылі?» — абураецца бацька нябожчыка.

Што да падзенняў з лесвіцы і клумбы, то ўжо праз пяць месяцаў пасля смерці Алега новая экспертыза зрабіла заключэнне, што ад падзення маглі ўтварыцца крывападцёкі левай галёнкі і драпіны левай кісці, якія былі на целе Цімафеева. Час, калі ён падаў і крыху падраўся, магчыма, супадае з часам атрымання траўмы жывата.

Але эксперты не маглі вызначыць, ці магла быць нанесеная траўма жывата падзеннем на камень. Прычына — адсутнасць у матэрыялах праверкі дадзеных пра яго канкрэтнае размяшчэнне. Атрымліваецца, камень знайшлі, забралі з месца здарэння, але не задакументавалі, у якім месцы ён ляжаў.

«Думаю, што любы чалавек, калі будзе падаць, не паваліцца плазам — ён паваліцца на рукі ці перавернецца на пляча. Можна ўдарыцца грудзінай, але не веру, што можна жыватом», — кажа бацька памерлага.

### Знайсці вінаватых

«Я не сцвярджаю, што збілі канкрэтна тыя патрульныя, што яго забіралі. Ёсць факт атрымання цялесных пашкоджанняў. Я прашу высветліць, хто збіваў», — кажа Віктар Цімафееў.

Калі забіралі Алега, гэта бачыў ягоны сябар. Ён даказвае, што Алег нібыта пачуў шыпенне ад кола машыны. Падышоў паглядзець, калі і з'явіліся міліцыянты. Цімафееў пабег, а сябар стаяў убаку. Віктар тлумачыць такі сынаў учынак тым, што ён, паколькі выпіў піва, баяўся трапіць у выцвярэзнік.

«Пратакол апытання сябра прысутнічае ў матэрыялах. Але следчы як ставіць пытанне? «Вы бачылі, як яго збівалі?» — «Не». А трэба было пытацца, ці быў ён здаровы да затрымання».

«Абставіны прычынення цялесных пашкоджанняў Цімафееву з боку супрацоўнікаў міліцыі не знаходзяць свайго пацверджання, аспрэчваюцца супрацоўнікамі міліцыі», — пастанавіў следчы.

Віктар Цімафееў рыхтуе новыя скаргі. Ён дамагаецца, каб усё ж завялі крымінальную справу. Каб вызначылі, пры якіх абставінах сын атрымаў смяротную траўму. Бо пакуль няма яснасці, датуль і будуць заставацца сумневы ў справядлівасці.

**Сяргей Макарэвіч, Мінск-Наваполацк**



Пасля падзення з гэтай клумбы Алег нібыта не здолеў сам падняцца, паказвае бацька.

Апошняя частка дакументальнага праекта аб ускрайкавых гарадах Беларусі, які фатограф «НН» **Сяргей Гудзілін** здымаў цягам двух гадоў.

# Край Беларусі.




Яшчэ адна міфічная мяжа, але вельмі важная для беларусаў. Чытаю ўважліва надпіс на цвілым пастаменце: «Российская ФедИрация»...

Хоцімскія жыхары збіраюць грыбы ў памежнай зоне і на тэрыторыі Расіі.

Зноў аўтобус і панылы аўтавакзал «Усходні». Такое адчуванне, што акрамя некаторых жанчын, якія быццам бы не старэюць, у Мінску ёсць яшчэ будынкі, які будуць вечна панылымі...

«Садзіцца па местам!», «Оля... а гдзе двадцатрэцье?», «Да, свабодна... пастаўце сумку...», «Нічыво, нічыво — я да дач...» — чуецца з боку. Расселіся. Праз вакно бачу як маці хрысціць сына на дарогу. 400 кіламетраў — 8,5 гадзін. І Беларусь — зусім не маленькая краіна. Дакладна.

Маршрут **«Мінск — Хоцімск»** — апошні ў спісе маіх вандровак па беларускіх ускрайкавых мястэчках. Два гады таму гэтая ідэя выглядала як заданне на семінары: «Аб'ехаць самы паўночны, паўднёвы, заходні і ўсходні гарады ці мястэчкі Беларусі. Пражыць з іх жыхарамі частку іх паўсядзённага жыцця. Адчуць маштаб краіны. Параўнаць. Адрозніць. Візуалізаваць сістэму каардынат — ад поўначы да поўдня, з захаду на ўсход...». Два гады таму была ідэя ўбачыць Беларусь — усю, з максімальна разнастайных бакоў, тут і цяпер... А цяпер у мяне ўжо нараджана...

400 кіламетраў на ўсход. Да мяжы з Расіяй, якой няма (гэта я пра мяжу)... Пакуль жа мы праехалі **Чэрвень, Беразіно і Бялынічы**. Магчыма, пільны беларускі журналіст зафоткаў бы хоць вакзал, але недзе пасля Чэрвеня запахла беляшамі і кудысьці зніклі дачнікі. А ў Беразіне на вакзале абвесткі даюць па-беларуску. З Мінска — 4 гадзіны, і вось — Магілёў. Гэты рэйсавы аўтобус вывозіць цябе са сталічнага кантэксту паступова і нудна. Як восень. Гэта ідэальная пара года, каб ехаць на ўсход... У салон аўтобуса заходзяць дзве дзяўчыны. Сядаюць ззаду. Літаратурнае гэканне і аканне — у норме. Значыць, жывуць недзе далей па маршруце. Два профілі злева загайдаліся. Едзем.

Насця сядзіць бліжэй да мяне. Фарбаваная бландзінка. Куртачка з пушком. Манікюр. Сумка Dior з пазалочаным ланцужком. «Срамата кітайская, блін, цябе б заінстаграміць на пацеху мінскім хіпстарам...» — падумалася, але адпусціла.

Калі б у Беларусі быў жанр правінцыйнага рамана (так, ведаю, але Марціновіч пісаў быццам бы пра вёску), то Насця была б там героем першага плану. Ніхто так тонка не змог бы пагаварыць кіроўцу: «Давай, паехалі», даставаць з сумкі белыя сухарыкі са смакам бекону, хрумкаць імі і пры гэтым ганяць на мабільніку стужку «Укантакціка» правай рукой... Не, яна культурная. За пазногцік манікюру зачапіўся маленькі кавалачак грэнкі... Культурна і з незаўважнай спрытнасцю прыгажунь эпохі Каліноўскага, адным рухам выцірае кавалак «кірыешкі» аб падгалоўнік аўтобуснага крэсла колеру пінжакоў «новых рускіх» з ліхіх 90-ых... Эта Усход, дзетка!



Чавусы. Маці перадае дачцэ каву ў літровым слоіку.

**Чавусы.** Сяброўка Насці, у чырвоным паліто і боціках на высокіх абцасах, выходзіць на перон. Там яе чакае жанчына ў шэрай скуранцы. Мама. Распытвае хуценька пра вучобу ў Магілёве. Дачка аднеківаецца: «Нармальна. Вучымся. Харашо. Да сяброўкі. Госці. Насця». Маці перадае скруткі: літровы слоік у ручніку, булку, мандарыны... Потым стаіць да самага адыходу аўтобуса, пазірае ў бок, дзе за акном сядзіць яе дачка, быццам бы і дарослая, але вось трэба ж глядзець яшчэ яе...

«Дзевачкі, гуляем!» Насця вымотвае слоік з ручніка... Адкрываюць. Па салоне расцякаецца пах.

«Устала. У душ схажу і максімум «Дома два» пару серый пасматру», — рэзюмуе пад'еўшая Насця. Выйшлі яны ў **Крычаве**. Далей, на Хоцімск, мяне праважаў танк-манумент на пляцоўцы аўтавакзала. Насця яго тут кожны раз, відаць, бачыць... Відаць, таму танкі так моцна хваліююць Насцю. «Наставілі танкаў гэтых, — нечакана лупіць Насця. — У кажным горадзе эці памятнікі вайне. Наставілі адніх танкаў. Паствілі бы ну... не знаю... ну што-нібудзь паставілі б...».

За вакном цёмна. Дзе мы едзем, я не разумею — колькасць гарадоў, праз якія праехалі, я ўжо не магу ўзгадаць правільна. Здаецца, што гэты аўтобус ужо ніколі не прыедзе. Ён проста рухаецца ў прасторы, дзе за вакном поле, лес, крама «Родны кут», запраўка, рэчка і мост, будынкі гарадоў, назвы якіх можна не запамінаць... Гэта аўтобус, які вывозіць цябе з цэнтра да перыферыі.

Нейкая вёска. **Забелшын.** Рэзка спыняецца аўтобус. У салон залятае мужчына, гадоў пад 30, і схіляецца за загародку да кіроўцы. «Друг, памагі. Бацька ў коме — нада ў бальніцу». Вакол пустое маўчанне. Чуваць толькі рухавік буса. «Памагі. Во, пілі, і бацька не прасынаецца. Давай падвязём, га?!» Кіроўца да просьбаў падпітага, ці то мужыка, ці то яшчэ пацана, халодны: «Я табе не хуткая. Бацька ў коме — праспіцца і будзе нармальна... Давай, не затрымлівай». Так, калі б я быў кіроўцам аўтобуса, які 9 гадзін вязе людзей ад цэнтра некуды ўправа па мапе, то я б таксама так адказаў... Але я трохі задумаўся. І вось мы ўжо ў Хоцімску... Па дарозе я не сустрэў машыны хуткай, яна толькі адсюль, з райцэнтра, можа ехаць — значыць, бацька з комы выйшаў ці проста памёр, як алкаш... А можа, добры чалавек?



Вольга Пятроўна ў сваёй хаце.

Вользе Пятроўне 83. Жыве на вуліцы 50 гадоў СССР. Перажыла і вуліцу сваю, і СССР...

# Усход: Хоцімск


Манумент-танк у Крычаве.

Цёмна. Ліхтары абапал вуліцы. У Асвеі я жыў у падпісчыка «НН», у Камарыне жыў у гатэлі з будаўнікамі малочнай фермы, у Высокім — здымаў дом у бізнэсоўца Васіля Васільевіча. У Хоцімску з гатэлем не выйшла — усе месцы занятыя працаўнікамі «Аблгаза». Іду ў інтэрнат ПТВ. Сонны вахцёр выдае ключы ад «гатэльнага нумара». Тры ложкі, тэлевізар, па-савецку прыстойна, можна жыць і спаць. 16 тысяч за суткі.

**Восеньскі ранак.** Вільготна і туман. Іду ўздоўж яркіх дамкоў. Нязвыклае для райцэнтра, мяне сустракае хоцімскае кола агляду. Зачыненае яно. Восень. Але яно ўражвае — сярод шэрагу аднапавярховых клінаў вясковых дамоў стаіць гэта кола агляду... Кіно. Пра райцэнтр.

Вольга Пятроўна спяшаецца. Будзе дождж. А дровы не складзеныя яшчэ. Райцэнтр рыхтуецца да зімы. Вользе Пятроўне 83. Жыве на вуліцы 50 гадоў СССР. Перажыла і вуліцу сваю, і СССР... Бацька ў 20-я быў «нэпманам» — меў зямлю і гаспадарку і наймаў парабкаў. Угаварылі (тады яшчэ ўмелі ўгаворваць) пайсці ў калгас. Стаў кіраваць фермай. Асудзілі за паморак скаціны, і памёр ён недзе на перасылцы пад Тулай. А потым была вайна... «Аралі на сабе. Нацярпеліся...» — працягвае Вольга Пятроўна. Потым паказвае ўласнаручна зробленыя ручнікі і настольнікі. Пакінула сабе толькі самае дарагое — астатнія рэчы здала ў краязнаўчы музей.

Хоцімск — акуратнае, дагледжанае мястэчка. Не без прыкмет запусцення, але нічым як бы і не вылучаецца ад іншых перыферыйна-памежны беларускіх гарадкоў. Усё як ва ўсіх (харошы мэсэдж для беларускіх выбараў), альбо добра, альбо нічога... Ну хіба што кола агляду. Здаецца, у памежных гарадах не можа быць высокіх аб'ектаў... Але адсюль Расію ўжо відаць і, відаць, можна глядзець на яе звысока... з кола.


Троіцкі сабор пабудаваны ў сярэдзіне XIXст. — гонар і прыгажосць Хоцімска.

А мяжы няма. Ёсць толькі знак. Як у Быкава. Толькі ў яго быў знак бяды, а тут проста знак прасторы з адсутнасцю часу. Дакладней мяжа тут была даўно і ўвогуле не тут, а далей — за Смаленскам. Мяжа ВКЛ з Маскоўскім княствам, Рэчы Паспалітай з Расійскай Імперыяй. Потым мяжа з'явілася... Беларусы — гэта аматары памежжа-паўзмежжа. Яны любяць быць побач, але не тут, любяць быць і тут і там, скраю і як бы з вамі. Але заўсёды недзе збоку і ў сабе. Памежжа заўсёды з беларусамі і ў іх. **Стан памежжа** — гэта стан выбару і нерашучасці. Памежжа — гэта месца, дзе сканчаецца краіна, калі ты адсюль звальваеш «за палітыку» вучыцца ў Польшчу. Ты проста едзеш міма яе, а яна міма цябе. І пачынаецца, калі ты вяртаешся сюды з семінара ці Акропаліса... Пачатак і канец. Паміж імі — іншае.

Хоцімск — чысты. Так бы напісалі рускія турысты на майскія святы з мінскага гатэля па вай-фаі. Але яны едуць па іншай дарозе ў сталіцу. Хоцімск застаецца ўбаку. Але ён сапраўды чысты. Ламачча і металалому ў дварах няма. Металалом тут — бізнэс. Яго здаюць у вёску на тэрыторыі Расіі, дзе з шасці двароў — два закінутыя, а ў чатырох — пункты прыёму металалому. Хоцімск вычысцілі ўвесь — не знайсці і цвіка. Мяжы няма, а быццам і ёсць. Таму караваны ГАЗэляў, загружаных металам, на памежных дарогах пачала лавіць міліцыя — кантрабанда. Але народ жыў і здаваў як умеў — свая форма памежнага бізнэсу. Уся цікавостка ў тым, што беларускі металалом з ваколіц Хоцімска рускія прадавалі назад у Беларусь, на БМЗ. Такая логіка памежжа... Цяпер цэны на лом у Беларусі і Расіі прыкладна аднолькавая, і бізнэс закрываецца — нерэнтабельна.


Вечар. Карова ідзе да свайгодвара.

Цёпла. Крутая восень. Лістоты амаль ужо няма і ад таго прастора робіцца татальна празрыстай. «На абед у нас не ганяюць. Прыязджджаюць адразу на поле і దояць тут. Бяруць вёдры, садзяцца...». Вось, гэта звонкае «р» — крутая моўная асаблівасць гэтага рэгіёну. Хацімчане кажуць *не бяры*, а «бярі», *курэй* — «курей». Так кажа і пастух ля кароў. З пугай і ў куртцы-плашчы. Позірк — расслаблены і нейкі ён у сябе. Колас і Купала з такіх пастухоў, відаць, і пісалі сваіх Мужыкоў. Я не пытаюся яго імя. Ён павінен быць як купала-коласаўскі мужык. Дурны мужык... Не ананімны, але безыменны. Такі, як усе беларусы.




**Хоцімск**

Мястэчка ў Магілёўскай вобласці, раённы цэнтр. Насельніцтва — 6,7 тысяч чалавек. Стаіць на рацэ Бесядзь. Упершыню згадваецца ў 1709-м. Спачатку ў Крычаўскім графстве, потым у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губерні. Быў раённым цэнтрам Калінінскай вобласці. Пры ўзбуйненні БССР вярнуўся ў Магілёўскую вобласць.

Ранак. Тры кіламетры ад Хоцімска. Лес. Мяжа з Расіяй. Смаленшчына, Браншчына, Чарнобыльская зона таксама недзе побач... Іду ў грыбы з Людмілай. Можна сказаць, шпацыруем нават. Пераходзім дарогу і з-за ялінак паказваецца знак тэротыры Расійскай Федэрацыі. «І што, мы ўжо ў Расеі (так, яны тут кажуць «Расеі»)», — кажу я Людміле. «Ну так», — і рэжа грыбы... Людміла ідзе далей, ужо ў Расеі, за знакам яна, за ялінкамі... Яшчэ адна міфічная мяжа, але вельмі важная для беларусаў. Чытаю ўважліва надпіс на цвілым пастаменце: «Российска ФедИрация»...

«Кончаныя правінцыялы», напісаў калісці каментатар Вуткін (так, яго трэба троліць і прозвішча пісаць на трасяначны капыл — Вуткін замест Уткіна). Так, правінцыялы. Правінцыялы правінцыі, з колам агляду, гэкаючай Насцяй з кірыешкамі, разбуранымі замкамі і Дурным Мужыком. Але ў гэтых кончаных правінцыялаў хаця б назва краіны на мяжы напісана без памылкі...

**Сяргей Гудзілін, 24-28 кастрычніка 2013. Мінск — Чэрвень — Беразіно — Пагост — Бялынічы — Магілёў — Чавусы — Чэрыкаў — Крычаў — Клімавічы — Забелшын — Хоцімск — Мінск**


Краявіды Хоцімскага вадасховішча.

# Хвароба старых усё часцей фіксуецца ў трыццацігадовых

Як з **папярэдзіць артрыт**?


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Беларускія медыкі адзначаюць, што астэаартрыт, характэрны для старых, цяпер усё часцей і часцей назіраецца ў 30-гадовых пацыентаў.

Загадчыца аддзела грамадскага здароўя ДУ «Мінскі абласны цэнтр гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя» Надзея Скрыннік кажа, што гэта адбываецца праз малярухомы лад жыцця і няправільнае харчаванне.

Астэаартрыт — дэгенератыўнае захворванне суставаў, якое паражае храсток, тканевую праслойку паміж касцямі. У тым месцы баліць, робіцца цяжка рухацца. Больш за 80% беларусаў, старэйшых за 60 гадоў, пакутуюць на астэаартрыт. Паводле разлікаў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, у 2020 годзе астэаартрыт будзе чацвёртай самай распаўсюджанай прычынай інваліднасці ў свеце.

Часцей за ўсё астэаартрыт паражаюць калені і сцёгны суставы. Таксама нярэдкі астэаартрыт шыйнага і паяснічнага аддзела хрыбта, пальцаў на руках. Жанчыны хварэюць часцей.

Фактары, якія могуць прывесці да развіцця астэаартыту: траўмы суставаў, дысплазія сустава, эндакрынныя захворванні, парушэнні абмену рэчываў, запаленчыя працэсы, слабасць мышцаў.

### Рухайцеся, але не перанапружвайцеся

Змяніць генетычную схільнасць да хваробы сучасная медыцына не ў стане. Але кожны можа рабіць усё магчымае, каб папярэдзіць хваробу.

Па-першае, у выпадку дыскамфорту ці боляў у суставах (асабліва моцных) пасля сну ці пасля фізічных нагрузак варта звярнуцца па кансультацыю да доктара. Астэаартрыт можа бессімптомна працякаць некалькі гадоў, і «заціснутасць» руху можа сведчыць пра наяўнасць захворвання.

Па-другое, сачыце за сваёю вагою. Лішнія кілаграмы значна дадаюць нагрузкі на суставы, што ў перспектыве можа мець сумныя наступствы.

Па-трэцяе, займайцеся спортам. Ёга, лёгкі бег, прагулкі — што заўгодна. Вельмі карыснымі будуць паходы ў басейн, бо плаванне развівае ўсё цела адразу. Суставы пакутуюць на адсутнасць руху. Да таго ж спорт развівае мышачны каркас, які падтрымлівае суставы.

Па-чацвёртае, не перагружайце суставы. Нельга блытаць гэты пункт з папярэднім, бо заняткі фізкультурай прыносяць карысць, а празмерныя нагрузкі шкодзяць. Таму, напрыклад, цяжкаатлеты і грузчыкі знаходзяцца ў групе рызыкі.

Па-пятае, пазбягайце траўмаў і добра залечвайце іх. Гэта варта высілкаў, затрачаных сродкаў і часу. Даследаванне амерыканскіх навукоўцаў паказвае, што траўмы каленнага сустава ў дзяцінстве ці юнацтве павышаюць рызыку развіцця астэаартрыту ў тры разы, а пры траўмах калена ў дарослым узросце — у пяць.

Па-шостае, насіце ўтульны абутак. Гэта ў першую чаргу тычыцца высокіх абцасаў, якія залішне нагружаюць каленныя суставы.

Па-сёмае, выбірайце здаровае харчаванне. Еште менш «белага»: вырабаў з высакаякаснай пшанічнай мукі, цукру і солі. Таксама пажадана замяніць тлустае чырвонае мяса нятлустым ці птушкай. Еште больш рыбы, зеляніны, садавіны і гародніны.

**Кірыла Хілько**



# Трагічна загінула 25-гадовая праваабаронца

**Вікторыю Старасценку** збіў грузавік.

Аварыя адбылася 30 кастрычніка каля 8.50 на вуліцы Карбышава ў раёне дома № 1. Вікторыя пераходзіла праезную частку па нерэгуляваным пешаходным пераходзе, абсталяваным адпаведнай дарожнай разметкай, знакамі і «спячым паліцыянтам», калі яе збіў грузавік МАЗ-555102. У 10.40 яна памерла ў бальніцы.

Вікторыя была сябрам грамадскага аб'яднання «Цэнтр па правах чалавека». Сама родам з Пружанаў.

**ЛМ**

# Голая аўтамыйка? О, прышпільна!

Плаці 600 тысяч — і тваё аўто памыюць дзяўчаты ў купальніках ці эратычных касцюмах.

Уладальнікі цуда-мыйкі правялі ўрачыстае адкрыццё 31 кастрычніка, на Хэлоўін, свята нячысцікаў. Невыпадкова, напэўна, першым наведнікам быў кліент на шыкоўным аўтамабілі Chevrolet Camaro з вычварным размашыстым надпісам на ім «Mefistofel». Нячысцікі атакуюць! Дый дзяўчаты былі апрануты адпаведна падзеі – у касцюмах медсясцёр-вампірак.

Здавалася б, даўно, стабільна і вольна працуюць не толькі ў сталіцы, але нават і ў Гомелі стрыптыз-бары, дзе можна ўвечары любавацца на каралеў пул-дэнсу? Працуюць сэксшопы адкрыта і легальна. Глядзі, хай хоць вочы вылезуць, эратычныя фільмы анлайн.

А ўсё адно – навіны пра бікіні бударажаць інтэрнэт, як быццам у гэтым ёсць нешта надзвычайнае. О, прышпільна!



Вось успомнім нашу ўсеагульную гісторыю. За што Адама і Еву выкінуў з раю Творца ўсяго жывога? Хадзілі яны там голыя і сораму не мелі, бо не ведалі такога, без паняцця былі. Без паняцця! Што голыя. А гэта – сорамна. А як паелі яблыкаў з забароненага дрэва – дык убачылі, што брыдка аголенымі скакаць паміж дрэў, пачалі ліхаманкава шукаць, чым бы прыкрыцца. Ды і пайшлі прыкрытыя фігавымі лісцікамі ў белы свет, у свет цярпення і пакутаў, у гэтую страшную бядотную зямлю.

Вось і Хам, нашчадак іх. Бачыць — бацька яго, Ной, ляжыць выпіўшы, у непрыстойным выглядзе. Сынок, замест таго, каб прыкрыць сорам бацькі, ці проста прамаўчаць, пачаў смяяцца і лямантаваць, клікаць іншых сыноў: «Бацька голы, бацька голы!» І што з таго Хама? Кім ён застаўся ў гісторыі? Заснавальнікам паняцця «хамства», якое азначае грэблівае стаўленне да культурных забаронаў. За тое яго «Хі-хі, о, прышпільна! Бацька голы!» пацярпеў нават і сын яго Ханаан.

Бікіні-мыйка – прышпільна, канечне.

**Юлія Шымкевіч**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Прыгоды Блакітнага Казлатура

Паглядзеў-паслухаў, як Аляксандр Рыгоравіч натхняў бррр-сэмаўцаў пакінуць свае амбіцыйныя памкненні да ўласнай справы і ўсім кагалам, разам з расейцамі, наваліўся на «камсамольскую будоўлю» АЭС.

Быў ці мусіў загадзя быць на той сустрэчы з «вечна маладымі» нібыта шчымлівы для прэзідэнта момант, калі нейкае дзяўчо, захлынаючыся ад свайго дачынення да гістарычнага моманту, тыцнула пальчыкам у нейкі артыкул нібыта пра нейкую камсамольскую будоўлю з колішняй, здаецца 1972 года, «Знамёнкі». Пра што канкрэтна артыкул, пра каго – цёмна. Прамільгнула толькі «Саша Лукашэнка», быццам іншых Сашаў Лукашэнак на той час у краіне ўжо не было. Гэта зараз Аляксандр Рыгоравіч адзін, мо нават на ўвесь свет. А тады?

Тады Сашам звалі маладога, амаль падлетка, кіроўцу «газіка» з Івацэвіцкага райкама камсамола. Наконт прозвішча выдумляць не буду, мо і Лукашэнка. А мо і Лукашонак ці Лукашук... Адно памятаю дакладна: было ў ім нешта ад нячысціка, калі, шмыгаючы носам і хаваючы вочы, ён паведаміў, што тармазы працуюць і я дамчуся да Мінска без аніякіх праблем...

Тормаз праваліўся кіламетраў праз сорак, на небяспечным крутым павароце яшчэ вузкай у 1971 годзе шашы...

Зрэшты ў тым «газіку» валілася ўсё, акрамя рухавіка і блакітнай фарбы. Рухавік пыхкаў, крэхкаў, але ж патроху, не больш за 50 кіламетраў у гадзіну, цягнуў. А вось блакітная фарба, у адрозненне ад звычайнай зялёнай, надавала «газіку» шыкоўны выгляд — хоць зараз жа на парад...

Ужо і не памятаю, хто прапанаваў назваць яго Блакітным Казлатурам. Але добра памятаю, адкуль узнікла гэта назва: з аповесці Фазіля Іскандэра «Созвездие Козлотура». Усе мы, супрацоўнікі тагачаснай «Знамёнкі», захапляліся той аповесцю. Мо таму, бо, як у люстры, пазнавалі ў ёй усё ліхаманкавае крывадушша савецкай рэчаіснасці, а ў той рэчаіснасці і сябе...

Блакітны Казлатур спатрэбіўся нам для так званай выязной рэдакцыі ў Акцябрскі раён, дзе некалі існавала знакамітая Рудабельская рэспубліка.

Раён быў адметны тым, што ад самага пачатку савецкай улады яна і чырвоны сцяг ніколі, нават у апошнюю вайну, адтуль не

## Яно заўжды было так: будоўля ёсць, а цэменту няма

знікалі. Што адразу кідалася ў вочы — больш жабрацкіх мясцін у Беларусі на той час не было. Пра жабрацтва, праўда, ніхто з ЦК камсамола не згадваў, калі абвяшчаў раён «камсамольскай будоўляй», больш пра патрыятызм і баявыя традыцыі...

Завадатарам «выязной рэдакцыі» быў Яўген Будзінас. Але галоўны герой той даўняй гісторыі ўсё ж Блакітны Казлатур.

Ад каго ж яшчэ літаральна залежыла наша жыццё, калі ён скакаў у зморку проста па лесвіцы пад ліхтары танцпляцоўкі? Але хто ж ведаў, што цяга не зашплінтавана? Добра хоць знайшліся потым два звычайныя цвікі...

А як натхнёна працавала з ім на Слуцкім аўтарамонтным заводзе камсамольска-маладзёжная брыгада, якой з выпадку «камсамольскай будоўлі» было даручана зрабіць з Блакітнага Казлатура цукерку!

Галоўны інжынер, праўда, ціха папярэдзіў: «Вы далёка не адыходзьце. Тыдзень таму тут цалкам машыну скралі. Кранам праз плот...» Я зірнуў на плот — метраў пяць, бетонны, па версе калючы дрот...

Два дні я нават не адыходзіў ад Блакітнага Казлатура. Ад'язджаў без затычкі бензабака. Што праўда, вярнулі. Але без ланцужка...

Не, не хопіць газетных нататкаў, каб расказаць пра ўсе прыгоды Блакітнага Казлатура. Але не абысціся без таго, як ён вазіў Будзінаса ў Крычаў здабываць для «камсамольскай будоўлі» цэмент. Яно заўжды было так: будоўля ёсць, а цэменту няма. Ёсць цэмент, а няма будоўлі... Тросся Блакітны Казлатур усю ноч.

Зранку высветлілася, што цэменту няма і не будзе.

А ўвечары Будзінас ужо ладзіў на вагоне доўгі чырвоны плакат: «Камсамольскай будоўлі — ад камсамольцаў краіны!»

Дзе той цэмент, пад якім можна было схаваць увесь пясок былой Рудабельскай рэспублікі? Дзе тая будоўля? Пра «аб'екты» не памятаю нічога. Нават не памятаю, пра што рабілі газетны дадатак.

Але жыве ў памяці жалобны мітынг, калі загінулі касманаўты Дабравольскі, Пацаеў і Волкаў. Я ўглядаўся ў счарнелыя твары наўкол і нейкім шостым пачуццём адчуваў, што менавіта гэта жахлівая смерць і ёсць сапраўды шчырай прыкметай жыцця...

І Блакітны Казлатур жыве ў памяці, не пакідае...

Жыве ў памяці, не пакідае, як ледзь не здрадзіў яму, калі развітваліся з Рудабелкай недзе ў далёкім лесе, на Пцічы. Добрая была самагонка, смачная юшка! Ну, а потым нахабна прышпорыў Блакітнага Казлатура і, каб не дыхаць пылам ад начальніцкіх «волгаў», усключыў на абгон паварот...

Імчалі мы з баявым сябрам па левым баку лясной гравійкі. Як ён стагнаў на ямінах, ухабінах, захлынаўся пылам! Але ж дамчаў да райкама хвілін на дваццаць раней за «волгаў». Ледзь трымаючыся на нагах, падышоў начальнік ДАІ: «В-в-вы... выключы паварот...»

Паспрабуй выключы.

Мігціць чырвона-жоўтым агеньчыкам у апраметнай ночы...

*kamerton_41@mail.ru*

# Забойства ў імя ідэалу

Гутарка з анарэксічкай, якая ледзь выжыла пасля **апантанага пахудзення**.

Тэлебачанне, фільмы, часопісы і рэклама прапагандуюць ідэальнае жыццё, ідэальныя формы і ідэальных жанчын. Часам людзі становяцца апантанымі дасягненнем гэтых ідэалаў.

Дзеля прыгажосці дзяўчыны адракаюцца ежы, знішчаючы здароўе і псіхіку. Такое захворванне называецца анарэксіяй. Самае страшнае, што хворы не заўважае і не ўсведамляе, што перайшоў дазволены мінімум і працягвае траціць вагу, пакуль не даводзіць сябе да знішчэння.

Пра тое, што адбываецца ў галаве анарэксічкі, пра яе адносіны з навакольным светам і блізкімі, пра фізічны і псіхалагічны боль мы паспрабавалі даведацца ў 21-гадовай Хрысціны, якая ледзь не паплацілася жыццём за ідэалы прыгажосці, але ў час спынілася.

**Хрысціна:** Усё, што адбываецца з анарэксічкамі на пачатку пахудзення, ім падабаецца. Гэта стан эйфарыі, адчуванне ўнутранай чысціні... Адзінае, што азмрочвала, — гэта боль, які я прычыняю сваёй сям'і.

**«Наша Ніва»: Табе не было страшна, што ў пэўны момант не зможаш спыніцца, нават калі важыла 34 кг?**

**Х:** У наш час амаль кожны чымсьці забівае сябе. Небяспечныя палавыя сувязі, наркотыкі, алкаголь, безадказнае каханне... Калі я і забівала сябе, то ў імкненні да ўласнага ідэалу. А ці не апраўдвае наша самазнішчэнне жаданне быць ідэальным? Гэта нашмат лепш, чым страціць сябе ў пагоні і грашыма ці іншым незразумелым матэрыяльным шчасцем.

**«НН»: З чаго, уласна кажучы, усё пачыналася?**

**Х:** Падаецца, не з простага жадання пахудзець, гэта не проста прыгожыя вывы, вабная рэклама, ідэальныя мадэлькі, якія выклікаюць зайздрасць і даюць стымул раўняцца на іх. Усё нашмат глыбей. Гэта перад усім жаданне дасягнуць свайго ўласнага ідэалу, якім ты б хацела бачыць сваё цела. Усё пачынаецца з дзіцячых комплексаў, незадавальнення сабой і кпінаў аднакласнікаў. Усім хочацца паказаць, што ты чагосьці варты. Жаданне ўдасканаліць сябе з'яўляецца натуральным у наш час татальнага спаборніцтва ва ўсім.

**Прыкметы анарэксіі:**

- адмова ад ежы;
- страта масы цела на 10-15%;
- адсутнасць менструацый на працягу 3 месяцаў;
- дэпрэсія;
- узрост хворага — не больш за 35 гадоў;
- хворы не заўважае свайго знясілення.

Чым раней атрымаецца пачаць лячэнне, тым лягчэй і хутчэй яно пройдзе. Пры цяжкіх стадыях самастойна анарэксія не лечыцца. Пры анарэксіі ў чалавека можа захоўвацца крытычнае мысленне. Аднак нават пры разуменні, што арганізм руйнуецца, страх не дазваляе пачаць есці.

20% хворых на анарэксію не выжываюць. Гэта самы высокі працэнт смяротнасці сярод псіхічных разладаў.

**«НН»: То бок да гэтага ты прыйшла асэнсавана?**

**Х:** Спачатку мне падавалася, што я не такая дурніца, як усе гэтыя манекены, я не дайду да такога. Навошта мне так здзекавацца з сябе? Думала, 40 кг — гэта мяжа і менш не будзе.

**«НН»: Але ў выніку ты страціла гэты самакантроль?**

**Х:** Самакантроль — гэта ўжо самападман. З першага дня пачынаеш трапляць у абсалютна іншы свет, не зразумелы раней. Але ты трапляеш туды і ў выніку сыходзіш з галавой, уцягваешся настолькі, што дзверы назад у рэальнасць зачыняюцца для цябе назаўжды. Вось і я пайшла па шляху зменаў паводзін харчавання, не ведаючы, што гэта так проста не спыніць.

**«НН»: Ты нейкім чынам сачыла за сваім станам?**

**Х:** Я вяла дзённік, запісвала вынікі пахудання. Сачыла за сваім настроем. Я перачытала безліч сайтаў і форумаў. Ведала, пэўна, амаль усё.

**«НН»: Ты, увогуле, думала пра тое, навошта табе гэта трэба?**

**Х:** Ідэальнасць — вось мой крытэр. Недасканалае цела сведчыць пра недасканалую душу.

**«НН»: А пасля зменаў у харчаванні ты адчула нейкія змены ў светаўспрыманні?**

**Х:** Пасля ты адасабляешся ад іншых, ты заўсёды на сваёй хвалі, асобна ад тых жыццярадасных людзей, якія могуць есці і не хвалявацца пра сваю вагу. А ты ў гэты час бачыш не ежу, а колькасць калорый і ўяўляеш, як яны могуць адбіцца на тваім і без таго тлустым целе. Глядзець у люстэрка становіцца проста агідна, ты бачыш не звыклую мілую дзяўчыну, а свінню, ты аглядаеш кожную частку свайго цела. Любая тлушчавая праслойка выводзіць цябе з сябе.

**«НН»: Гэтая незадаволенасць часта давала пра сябе ведаць? Бывалі нейкія эмацыйныя зрывы?**

**Х:** Часам я стаяла голая каля люстэрка, разглядала сябе і крычала: «Тлустая пачвара! Ненавіджу, ненавіджу сябе!» Тады я яшчэ болей абмяжоўвала сябе ў ежы. Першыя дні складана, а пасля разумееш, што ежа не была неабходнасцю... Працягнула адзін дзень — можна паспрабаваць далей.

**«НН»: І як ты сябе адчувала, калі не ела на працягу некалькіх дзён?**

**Х:** Я была неадэкватная. Спачатку гэта шчаслівае адчуванне, асабліва калі бачыш, што рэбры пачалі вылучацца значна больш. Вось ты аглядаеш сябе, цешышся з таго, як пахудзела тая ці іншая частка твайго цела. А пасля вочы спыняюцца на дупе. «А-а-а, які жах! Тлустая, тлустая дупа! Сэнс ад усяго, калі мая дупа як танк?!»

**«НН»: Цябе гэта раздражняла, і ты пачынала худзець з яшчэ большай апантанасцю?**

**Х:** Так, голад становіцца звычкай. Пачынаеш з простых абмежаванняў у салодкім, мучным, не ясі пасля шасці, пасля пяці, пасля трох, пасля дванаццаці дня... І ў выніку сама не заўважаеш, як перастаеш есці



**– Ты палюбіла сябе, калі стала худой?**
**– Не, я яшчэ больш сябе ўзненавідзела.**

ўвогуле. Навошта напаўняць сваё цела гэтай мярзотнай ежай, здаецца табе. У цябе ўнутры пуста і гэта кайф, з цягам часу пачуццё голаду станавілася эйфарычным, гэта штосьці кшталту дозы нейкіх наркотыкаў.

**«НН»: Табе падабаўся гэты эйфарычны стан голаду?**

**Х:** Вядома ж! Я тады знайшла асалоду ў галаданні, мне не хацелася забруджваць свае вантробы ежай. Ведаеце, гэта адчуванне таго, што я бліскучая і ружовая ўсярэдзіне, чыстая. Пустэча — гэта добра.

**«НН»: Хто-небудзь ведаў пра тое, што з табой адбывалася?**

**Х:** Не, я з'ехала на вучобу ў іншы горад. Я ўвесь час адчувала сябе зусім адзінокай. Не было да каго звярнуцца, бо ніхто не бачыў, здавалася, не мог зразумець тваёй місіі. Ад голаду ты ўпадаеш у своеасаблівы транс. Лёгкасць і самазадавальненне. Вось тут і прыходзіць яна — твая лепшая сяброўка і самы ненавісны вораг — анарэксія.

**«НН»: То бок ты атаясамляла хваробу з жывым чалавекам?**

**Х:** «Анна» — так скарочана, з ценем павагі і любові называюць анарэксію. Бо яна — гэта не проста хвароба, гэта тая ідэальная «ты», што знаходзіцца ўнутры цябе. Мне падавалася, што знішчыўшы сябе, можна адкрыць сябе новую.

**«НН»: А ты адчувала віну перад сабой, калі нават трошкі ела?**

**Х:** Часам нават пітво вады прымушае цябе адчуваць віну. І тады я ішла ванітаваць. Паступова ад бясконцага выклікання ванітаў развіваецца булімія. Арганізм ежу не ўспрымае, хоць есці хочацца, адразу пасля цягне на ваніты. Пры кожным зрыве ты пачынаеш есці і ад пачуцця віны нічога не застаецца, як ізноў скарыстацца двума пальцамі ў роце. Кожны дзень. І горла тваё становіцца чырвоным, яно апухае. Але і гэта не дапамагае пазбавіцца згрызотаў сумлення.

**«НН»: Ты памятаеш, як першы раз прымусіла свой арганізм ванітаваць?**

**Х:** Памятаю, калі ў першы раз я спрабавала званітаваць усё сажранае мной, у мяне здарылася вар'яцкая істэрыка, было так агідна ад сваёй нікчэмнасці, ад уяўлення таго, што ты сядзіш каля ўнітаза і не можаш званітаваць гэтую ежу. У мяне яшчэ і кроў з носа пайшла... У выніку выйшла ўсё, што ўва мне было, а вось сорам застаўся.

**«НН»: Вось зараз, узгадваючы свой стан, як бы ты апісала сваю хваробу?**

**Х:** Анарэксія — гэта бясконцае забойства ў імя ідэалу, які, па сутнасці, не існуе. Але ты падсеў, і самастойна дарогу назад ты не знойдзеш. Гэта як алкагалізм, толькі паміраеш ад анарэксіі значна хутчэй.

**«НН»: Ты палюбіла сябе, калі стала худой?**

**Х:** Не, я яшчэ больш сябе ўзненавідзела. Ты губляеш кілаграмы, але ўжо не заўважаеш, як твае ідэалы змяншаюцца ў вазе. Спачатку ідэалам было 40, пасля 38, 37, 35, 32 кг. І гэтага ніколі не будзе дастаткова.

**«НН»: Як ідзе развіццё хваробы пазней?**

**Х:** Ваніты ўваходзяць у звычку, становяцца самай звычайнай справай, як пачысціць зубы. Што яшчэ характэрна, я палюбіла гатаваць, мне прыносіла вар'яцкае задавальненне гатаванне розных страў, я запрашала гасцей і вельмі клапатліва частавала іх, пры гэтым сама не чапаючы ні кавалачка.

Я расчэсвала валасы і выцягвала жмуты. Сядзела за сталом і плакала, бо есці занадта страшна. Прачыналася і фізічна не магла ўстаць з ложка, таму што не было моцы....

**«НН»: Ты спынілася і цяпер з цяжкасцю, але вярнулася да нармальнага ладу жыцця. Моцна сапсавала сабе здароўе, але, прынамсі, засталася жывой. Што цябе стрымала?**

**Х:** Страшней за ўсё было трапіць у бальніцу, я ведала, што мяне магло чакаць лячэнне ў вар'ятні. Медсястра ва ўніверсітэце заўважыла маю хваробу, калі я раз-пораз была вымушана звяртацца да яе з моцнымі галавакружэннямі, млявасцю і скокамі ціску.

Я не хацела, каб мяне лячылі. Але ў адзін момант разумееш, што яшчэ трошкі — і ты станеш смярдзючым трупам. Я спынілася. Не ведаю, што мне дапамагло, можа, лекі, можа, Бог нагадаў пра сваё існаванне... Бо ніякія лекі не дапамогуць, калі сам не ўсвядоміш, што ты хворы.

**«НН»: Цяпер ты адчуваеш сябе цалкам свабоднай ад гэтай хваробы?**

**Х:** Усё адно страх есці шмат застаўся. Гэта жудасная хвароба, але ты ўсведамляеш яе толькі ў тым выпадку, калі ачуняеш. Мне страшна ўзгадваць усё тое, што я адчувала. І больш за ўсё сорамна перад матуляй, якая столькі перацярпела.

**Вольга Гарапучык**

# Як Грузія з самай карумпаванай краіны стала самай празрыстай

Прынцып: чыноўнікаў павінна быць мала, яле зарабляць яны павінны шмат.

Саакашвілі ўдалося тое, што нарэй не змог нават Сталін: у Грузііболыш не бяруць хабар.

«Трэба было ўпэўніць людзей, што ты насамрэч змагаешся з карупцыяй, бо кожны ўрад пачынае з абяцанняў перамагчы гэтае зло, але справа так і не кранаецца з месца», — апісвае сітуацыю Шота Уціяшвілі, кіраўнік дэпартамента міжнародных і грамадскіх сувязяў цяпер ужо апазіцыйнай партыі «Нацыянальны рух».

Transparency International, няўрадавая міжнародная арганізацыя па барацьбе з карупцыяй і даследаванні ўзроўню карупцыі па ўсім свеце, ужо не першы год адзначае Грузію як краіну, у якой карупцыя змяншаецца найбольшымі тэмпамі.

У 2003 новая ўлада прыйшла фактычна пад лозунгам барацьбы з карупцыяй, бо пры Шэварнадзэ ўся краіна пакутавала ад гэтай з'явы. Бюджэт краіны тады складаў усяго $300-400 мільёнаў. Цяпер ён павялічыўся прыкладна да $5 мільярдаў. Эканоміка не магла вырасці ў столькі разоў. Проста грошы, якія сыходзілі налева, пастулова перайшлі ў казну дзяржавы.

Як тэхнічна гэта рабілася? «Мы адразу скасавалі ДАІ, бо гэтая структура ад пачатку пабудаваная на карупцыі, — тлумачыць Уціяшвілі. — З так званай «элітарнай карупцыяй» людзі рэдка сустракаюцца, а з гэтай што-дзень. Многія казалі, што сітуацыю ўвогуле нельга выправіць. У выпадку з ДАІ ў нас атрымалася. А калі можна змяніць ДАІ — можна змяніць і ўсё астатняе».

Раней у грузінскай ДАІ працавала каля 15 тысяч чалавек, якія самі «зараблялі» сабе на жыццё. Іх усіх звольнілі ў адзін дзень і нанялі каля 2 тысяч новых патрульных.

Змяніліся і самі ўмовы набору: замест абавязковых чатырох гадоў у акадэміі існуюць спецыяльныя курсы, дзе за паўгода можна атрымаць прафесію патрульнага. Апроч таго, цяпер улады не павінны абавязкова браць на працу ўсіх выпускнікоў акадэміі, можна абіраць найлепшых.

Чаму менавіта дзве тысячы чалавек? Ва ўрадзе падлічылі, што менавіта столькі чалавек у гэтай галіне краіна можа забяспечыць.

«Логіка простая, — расказвае Шота Уціяшвілі. — Калі ты прымаеш чалавека на дзяржаўную службу, ты павінен яго забяспечыць, каб у яго не было апраўданняў «Мы там мала зарабляем, што не можам утрымліваць сваю сям'ю». Хоць ніякай прамой залежнасці паміж заробкам і карупцыяй няма. Калі ты дасі чалавеку шмат грошай, гэта не значыць, што ён аўтаматычна перастане красці». З таго моманту, па меркаванні Шоты Уціяшвілі, паліцыянты сталі гля-дзець на саміх сябе як на добрасумленных людзей.



Празрыстасць ва ўсім. Таму нават сцэны празрыстыя.

## Пакаранне за хабар — ад 7 да 9 год турмы. І таму, хто даваў, і таму, хто браў

Нягледзячы на некаторыя гучныя скандалы, статус патрульнай паліцыі захаваўся. Больш за 80% людзей кажуць, што давяраюць «новай ДАІ».

Куды сышлі тыя пятнаццаць тысяч карумпаваных міліцыянтаў, якіх выгналі з утульных месцаў? «Нацыянальны рух», ініцыятар рэформаў, запэўнівае, што пасля звальнення такой колькасці лю-дзей першым наступствам, як ні дзіўна, стаў эканамічны рост. Так, з 2004 да 2012 эканоміка Грузіі штогод расла амаль на 7%, і гэта нягледзячы на вайну і крызіс.

«Калі эканоміка расце такімі тэмпамі, то маладому мужчыну нейкую працу можна знайсці, — разважае спадар Уціяшвілі. — Шмат хто з іх сышоў у прыватную ахову. Некаторыя, вядома ж, засталіся без працы, але ў нас не было выбару. Чакаць, што будзе столькі грошай, каб забяспечыць пенсіямі і дапамогамі ўсіх, каго звальняеш, можна бясконца».

У сферы аховы было прыбрана шмат дублюючых функцый. Напрыклад, паліцыя не можа праверыць ніводнае прадпрыемства. Эканамічныя і падатковыя справы паліцыі не датычацца, гэтым займаецца следчы дэпартамент у Міністэрстве фінансаў.

Рэформы распаўсюдзіліся і на іншыя спецслужбы, але яны не былі такімі радыкальнымі, бо досвед і адукацыя супрацоўнікаў адыгрывалі важную ролю.

«Змянілі работнікаў і на мытні, і ў фінансавай паліцыі, — падсумоўвае Уціяшвілі. — Вельмі вялікае значэнне мае тое, што ўся праца стала электроннай. Пры асабістым кантакце не робіцца амаль нічога, усё фіксуецца ў камп'ютары. Тое самае адбываецца і пры выдачы дакументаў у Дамах юстыцыі, дзе ўрад выдае ліцэнзіі і пасведчанні. Усё максімальна падрабязна задакументавана, і гэта вельмі дапамагае».

Грузіны кажуць, што цяпер не з'яўляюцца прыхільнікамі хабару. Кіроўца Эміль з прадстаўнікамі новай паліцыі сустракаецца даволі часта. «За хабар у Грузіі існуе вельмі жорсткае пакаранне: ад 7 да 9 год за кратамі, — адразу папярэджвае ён. — Трэба быць вар'ятам, каб за некалькі сотняў даляраў сесці на такі тэрмін. Людзі баяцца даць хабар, бо ведаюць, што самі могуць быць пакараныя, бо арыштоўваюць і тых, хто даваў, і тых, хто браў. І нават тых, хто ведаў пра хабар, але не данёс. Патрульныя працуюць у пары, і напарнік заўсёды ў курсе, як ідуць справы ў яго сябра».

Акрамя таго, практыкуецца «лоўля на жыўца», калі спецыяльныя людзі пад выглядам простых грамадзянаў прапануюць хабары патрульным. Тым, наконт сумленнасці працы якіх узніклі сумневы.

Рэформы 2003 і наступных гадоў былі своеасаблівай тэрапіяй для грамадства, магчыма, часам жорсткай. Але, па-першае, пасля іх бюджэт настолькі павялічыўся, што выгада відавочная. Падругое, Саакашвілі і яго каманда сапраўды прымусілі людзей адмовіцца ад стэрэатыпаў на карысць грамадства.

**Настасся Храловіч, Тбілісі—Мінск**

# Аперацыя «пераемніца» ва Узбекістане правалілася

Іслам Карымаў **руйнуе бізнэс-імперыю** сваёй апальнай дачкі.

Гульнара Карымава — старэйшая дачка нязменнага кіраўніка Узбекістана. Яе бацька, былы першы сакратар мясцовай кампартыі, нязменна кіруе краінай ужо 25 гадоў.

41-гадовую Гульнару разглядалі як найбольш верагоднага пераемніка, аднак яе адносіны з бацькамі, якія сталі пагаршацца сёлета, цяпер блізкія да пункта незвароту.

Летам яе пазбавілі дыпламатычнага імунітэту — дачка Карымава была прадстаўніцай Узбекістана пры ААН і іншых арганізацыях у Жэневе.

А на мінулым тыдні спынілі трансляцыю чатыры тэлеканалы і тры радыёстанцыі, падкантрольныя Гульнары. Праваахоўныя органы пачалі праверку іх фінансавай дзейнасці. Неўзабаве прыпыніў працу і яе Цэнтр палітычных даследаванняў. Бізнэс-імперыя Гульнары Карымавай трашчыць па швах. Чаму дачка азіяцкага дыктатара трапіла ў няміласць да бацькі?





Гульнара Карымава была сярод найбагацейшых жыхароў Узбекістана.

Фатаграфіі ў сацыяльных сетках давялі Карымава да шаленства.

Апазіцыя і грамадзянская супольнасць ва Узбекістане існуюць пад моцным ціскам, таму інфармацыя з краіны далятае ўрыўкавая.

Нібыта супраць Гульнары выступілі мясцовыя спецслужбы. Кіраўнік мясцовага аналага КДБ Рустам Інаятаў, пакрыўджаны на абразы з боку Карымавай, вываліў увесь кампрамат на яе кіраўніку краіны.

Паводле яго, кіраўніцтва найбуйнейшых узбекскіх прадпрыемстваў — нафтаперапрацоўчы і цэментны заводы, а таксама тэкстыльныя фабрыкі — штомесяц плацілі Гульнары Карымавай ад 50 да 70 мільёнаў даляраў за магчымасць працягваць працу ў краіне. А сярэдні бізнэс быў вымушаны «добраахвотна» спансаваць модныя паказы, канцэрты і выставы яе дабрачыннага фонду.

Апошняй кропляй для Іслама Карымава нібыта сталі непрыстойныя для мусульманскага свету фотаздымкі дачкі, дзе тая дэманструе практыкаванні з ёгі. «Прэзідэнт накінуўся на Гульнару з кулакамі і пачаў збіваць, выкрыкваючы пры гэтым, што яна зганьбіла ўсю іх сям'ю», — смакуюць падрабязнасці апазіцыйныя СМІ.

«Вядома ж, Гульнара — зусім не няшчасная і безабаронная ахвяра, якой хоча паўстаць у сацыяльных сетках, і не бескампрамісная абаронца чужых правоў і свабодаў, — мяркуе галоўны рэдактар апазіцыйнага ўзбекскага сайта «Фергана» Данііл Кіслоў. — Гульнара Карымава — гэта той самы выпадак, калі фаварыт, які зарваўся ў сваёй беспакаранасці, раптам трапляе ў няміласць. І гнеў «таты» — цалкам лагічны працяг яго ранейшай міласці, якая разбэсціла і распусціла прынцэсу».

Барацьба за прэзідэнцкае крэсла 75-гадовага Іслама Карымава толькі пачынаецца, а значыцца, сапраўдная вайна кампраматаў толькі наперадзе. Зрэшты, ва ўзбекскага дыктатара ёсць яшчэ адна патэнцыйная пераемніца — малодшая дачка Лола, прадстаўніца Узбекістана пры ЮНЕСКА, якая публічна адхрысцілася ад сваёй сястры.

**ЯМ**

А таксама **ўнікальныя туалеты** санаторыя ЦК КПБ.

# Тут былі Радзівілы, Напалеон і Гітлер



Усяго за кіламетр ад Барысава размешчаная вёска Старабарысаў. Туды ідзе аўтобус №12. Даехаць ім можна і ад чыгуначнага, і ад аўтавакзала.

Калі ехаць машынай, то, выязджаючы з Барысава, можна дабраціся двума шляхамі: альбо кіруючыся ў бок вёскі Кішчына Слабада, дзе нарадзілася славутая аўтарка «Літоўскай гаспадыні» Ганна Цюндзявіцкая, альбо ў бок Зембіна — радзімы беларускага яўрэйскага паэта Ізі Харыка. У любым выпадку вы трапіце да сядзібы.

Машыну пакідаем далёка ад будынка. Паркуемся каля аднаго прыватнага падворка, у якім на сцяне ці то намаляваны, ці то павешаныя скуры дзіка і двух маленькіх парсючкоў. Пакуль спрачаемся, на вуліцу выходзіць гаспадар. «Можна мы машыну тут пакінем?» — «Калі ласка». — «А што гэта за парсючкі?» — «Намаляваў тут адзін мясцовы біч. Малярэвіч прозвішча. Вучыўся ў партшколе. Потым быў другім сакратаром кампартыі Кыргызстанскай ССР, а цяпер вярнуўся ў Барысаў, малюе за гарэлку».



**Замест анекдота**

Калі выязджалі са Старабарысава, то нашу ўвагу прыцягнулі вузенькія дамкі, размешчаныя на адлегласці метраў 20 адзін ад аднаго. Адрас: вуліца Працоўная, 3. «А спяць людзі тут стоячы?» — жартавалі мы. Грукалі ў дзверы, каб даведацца гісторыю гэтых дамкоў, аднак ніхто так і не адчыніў, хоць тэлевізары ў кватэрах працавалі.

Сітуацыю праясніў краязнаўца Міхась Мацельскі: «Да вайны тут быў санаторый ЦК КПБ, закрытая зона. Быў вялікі прыгожы фантан. Большасць пабудоваў былі драўлянымі. З цэглы былі зробленыя толькі два двухпавярховыя туалеты. У вайну ўсё згарэла, засталіся гэтыя прыбіральні, якія і перарабілі пад жытло. Людзі і па сёння там жывуць».

Падыходзім да сажалкі, якую выкапалі перад гарадзішчам. З усіх бакоў вадасховішча абселі рыбакі. «Клюе?» «Ай, карась троху бярэ, — махае адзін з рыбакоў. — А вы палац прыехалі здымаць? Напалеон тут спыняўся. Гітлер? Не, ніколі не чуў. Не можа быць таго, каб тут Гітлер быў. Хіба што ў Пячах ён мог бываць». Не сталі пераконваць у адваротным.

Гісторыя гэтых мясцінаў вельмі цікавая. Тут бывалі князі Радзівілы, прадстаўнікі дома Раманавых, Напалеон разам са сваёй арміяй, Адольф Гітлер праводзіў нараду ў 1941-м.

Ад усяго маёнтка застаўся толькі адзін гасцявы домік, пабудаваны дзесьці на мяжы XIX і XX стагоддзя, стаіць ён маляўніча, на самым цэнтры гарадзішча. Яго часта і называюць тым самым домам, дзе спыняліся Напалеон і Гітлер, аднак гэта зусім не так. Таго дома больш не засталося. Ёсць розныя меркаванні: адны кажуць, што ён быў знішчаны самімі немцамі пры адступленні. Іншая версія кажа, што знішчалі ўжо пасля вайны камуністы, каб сцерці памяць аб прысутнасці Гітлера.

Калі зазірнуць крышку ў гісторыю, то Радзівілы атрымалі старабарысаўскі маёнтак ва ўладанне пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай. Радзівілы ўзначальвалі Барысаўскае староства і займалі мясцовы замак (не існуе на сёння), аднак ад пачатку расійскага ўладарання іх папрасілі пераехаць, прапанаваўшы як альтэрнатыву якраз Старабарысаў.

Барысаўскі краязнаўца Міхась Мацельскі кажа, што ў 1830-я існавала пастанова аб канфіскацыі маёнтка ў сувязі з падтрымкай Радзівіламі паўстання 1830-1831 гадоў. «Не ведаю дакладна якім чынам, аднак Радзівілы змаглі захаваць гэты маёнтак. Праўда, праз нейкі час прадалі яго імператарскаму дому Раманавых». Натуральна, ні Радзівілы, ні Раманавы стала ў гэтым дамку не жылі, аднак, вядома ж, з'яўляліся ў сваім уладаннях.

Ля сядзібы, што засталася яшчэ, стаяць тры дамкі. «Цікава, ці не страшна гаспадарам жыць каля такога закінутага дома? Мне было б вусцішна, як у фільмах жахаў», — кажа адзін з нашай кампаніі.

На дамку шыльда — «Ахоўваецца дзяржавай», знізу маркерам нехта прыпісаў «lol», «моцна рагачу», калі перакладаць з інтэрнэт-мовы.

У савецкі час гэтая сядзіба выкарыстоўвалася як саўгасная кантора. На адных дзвярах нават засталася шыльда на дзівоснай трасянцы «Заўхоз». «Артэфактаў усё меней і меней, — кажа кіраўнік барысаўскай філіі БНФ Сяргей Салаш. — Яшчэ некалькі гадоў таму з жонкай знаходзілі тут розныя саўгасныя дакументы, тлумачальныя запіскі калгаснікаў. Цяпер гэтага ўжо не знойдзеш».



«Адзін мецэнат, не магу называць яго імя, быў гатовы ўзяцца за аднаўленне будынка, аднак праз бюракратычныя перашкоды адмовіўся ад сваёй думкі», — кажа Міхась Мацельскі.

Шкла нідзе няма, падлогі фактычна таксама. Усё, што было магчыма, разабралі мясцовыя. На адной са сцен надпіс: «Басота-2013». Аднак людзі сюды едуць, нават нягледзячы на несуцяшальны стан будынка.

«Раней ці пазней будзе аднаўлена, — працягвае Міхась Мацельскі. — Я ў гэтым не сумняюся. Будзе добрым турыстычным цэнтрам краіны».

**Зміцер Панкавец, Старабарысаў**

**Фота Сяргея Гудзіліна**

# У Беларусі з'явілася новая кінакампанія

Mara Films здымае **серыял пра вядзьмарку**.

Новая кінакампанія Mara Films цяпер працуе адразу над двума праектамі. Першы, як кажа яе заснавальнік і рэжысёр Валерый Бак — гэта 12-серыйная стужка «Караліна», другі — паўнаметражны фільм «Час».

Моладзевы серыял «Караліна» расказвае гісторыю вядзьмаркі, якая атрымлівае нешта накшталт адпачынак ад асноўнай вядзьмарскай дзейнасці і адпраўляецца вандраваць па эпохах і краінах. 20-хвілінная серыя — адна эпоха, адна краіна. Пра Беларусь будзе адразу дзве серыі. Разам з вядзьмаркай вандруюць яе сябры.

Першую ж поўнаметражку «Час» плануецца адправіць у Каны. Гэта фільм з трох частак. Першая — пра бронзавы век (і знятая будзе на санскрыце з субцітрамі), другая пра XIX стагоддзе, трэцяя пра наш час. Здымачная група моцна зараджаная ідэямі Дастаеўскага: напрыклад, у сюжэце пра XIX стагоддзе людзі на Каляды абмяркоўваюць гуманістычныя ідэі, але пры гэтым выганяюць на мароз жабрачку.

Што атрымаецца ў Mara Films даведаемся на пачатку 2014, калі выйдзе першая серыя «Караліны». Прэм'ера ж «Часу» плануецца праз год.

**Юрась Ускоў**

## Сціслa

**Памёр мастак Аляксей Кузьміч**

31 кастрычніка на 69-м годзе жыцця памёр Аляксей Кузьміч, вядомы мастак, сябра Беларускага саюза мастакоў. Развітанне з ім прайшло 2 лістапада ў Свята-Петрапаўлаўскім саборы.

**У Канадзе павіншавалі дзяячку эміграцыі Вольгу Грыцук з 90-годдзем**

Муж спадарыні Вольгі, Аляксей Грыцук, быў выбітнай асобай беларускай дыяспары: гісторыкам, літаратуразнаўцам, настаўнікам, старшынёй Згуртавання беларусаў Канады. Сама Вольга Грыцук выступіла адной з заснавальніц Згуртавання беларускіх жанчын Канады. Вольга Грыцук, якая сама родам з Дзісны, шмат расказвала пра гісторыю жыцця яе сям'і на Радзіме і потым у эміграцыі.

**«Стары Ольса» запісаў сярэднявечны рок-н-рол**

Гурт сярэднявечнай музыкі «Стары Ольса» выпускае новы альбом «Santa Maria». У альбом увайшлі танцы са зборніка «Полацкі сшытак», танцавальныя творы кампазітараў, якія жылі на тэрыторыі ВКЛ і дзве песні XIII і XIV стагоддзяў, якія прагучаць у перакладзе на беларускую мову з лаціны. Прэзентацыя дыска адбудзецца 17 лістапада ў ДК МАЗ (пр. Партызанскі, 117а).

**СМ**




**«Лучынка» — новая кніга для сямейнага чытання**

У выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла чытанка для дзяцей «Лучынка». Укладальнік кнігі — Зося Кустава, аўтар ідэі — Валянціна Салаўёва. Кніга аздобленая цудоўнымі ілюстрацыямі Маі Пракаповіч. «Лучынка» — гэта індывідуальная самастойная школка-вучэльня па авалоданні вуснай роднай мовай. Наклад новай кнігі складзе 2500 асобнікаў, у бліжэйшыя дні «Лучынка» з'явіцца ў продажы па кнігарнях Беларусі.

Яны ламалі прысягу расейскаму цару, каб ісці за Каліноўскім. Піша **Васіль Герасімчык**.

# Афіцэры 1863-га

У падзеях 1863—1864 г. вялікую ролю адыгралі афіцэры арміі Расейскай Імперыі. Мы ведаем легендарныя імёны капітана Зыгмунда Серакоўскага, падпалкоўніка Рамуальда Траўгута... На жаль, большасць прозвішчаў застаюцца невядомымі шырокай грамадскасці.



### Ветэран чачэнскай вайны Завістоўскі

Станіслаў Завістоўскі з Ваўкавыскага павета прайшоў шлях ад шарагоўца да штабс-капітана. У складзе рэгулярнага войска ён браў удзел у вайне з чачэнцамі. У бітвах з імі быў двойчы кантужаны. Зволіўшыся ў запас, кіраваў дзяржаўным маёнткам у Зэльве. Як толькі пачалося паўстанне, Завістоўскі выехаў на Беласточчыну, каб далучыцца да атрада вайсковага начальніка Гродзенскага ваяводства палкоўніка Ануфрыя Духінскага, у якім было шмат афіцэраў мясцовага расейскага палка.

Завістоўскі прыбыў у атрад пасля прайгранай 30 красавіка бітвы пад Саколкаю, дзе чатыром сотням паўстанцаў супрацьстаяла амаль тысяча расейскіх салдат. І адразу быў прызначаны камандаваць адной з трох рот атрада Духінскага.

На пачатку чэрвеня Завістоўскі узяў удзел у бітве ў Ружанскай пушчы, недалёка ад Ласосіна. Рота Завістоўскага першая прыняла на сябе ўдар расейскіх войскаў маёра фон Крэмера, а Валер Урублеўскі тройчы падымаў касінераў і выбіваў ворага з захопленага ім лесу. У выніку расейцы адступілі.

Але Завістоўскі пасля бітвы трапіў у палон. Гродзенскі ваенны суд даў ветэрану 20 гадоў катаргі. Губернатар Мураўёў замяніў прысуд на расстрэл: за далучэнне да паўстання і камандаванне асобнай вайсковай адзінкай. Станіслава Завістоўскага расстралялі 22 ліпеня 1863 г. у Ваўкавыску.

### Паўловіч, выдадзены за грошы

А 1 жніўня ў Брэсце быў расстраляны Багуслаў Паўловіч з Варшавы. Ён скончыў Аляксандраўскі кадэцкі корпус і служыў харунжым у брэсцкай 13-й артылерыйскай брыгадзе. Калі грымнула паўстанне, пакінуў войска і паступіў у атрад Рагінскага.

Удзельнічаў у няўдалай спробе захопу Белай-Падляскай, бітве пад Сямятычамі, аваловоданні Пружанамі. Атрад быў разбіты каля вёскі Баркі. Паўловіч намагаўся ўратавацца, але быў схоплены сялянамі вёскі Выганашча і за ўзнагароду перададзены расейскім уладам...

На допытах Паўловіч расказваў пра прымусовае ўцягванне ў паўстанне. Не дапамагло. Як не дапамог і зварот яго сёстраў з прашэннем аб памілаванні іх брата да вялікай князёўны Аляксандры Іосіфаўны. Пасля двухтыднёвага чакання смяротны прысуд, падпісаны М. Мураўёвым, прывялі ў выкананне. Паўловічу было ўсяго 22 гады.

### Капітан Звяждоўскі на шэрым кані

У адрозненне ад Заходняй Беларусі, дзе многімі атрадамі кіравалі памешчыкі, на ўсходзе паўстанне ўзначальвалі афіцэры. Яны не здымалі вайсковых мундзіраў і такім чынам імкнуліся паказаць, што армія з народам. Гэта былі сябры вайсковай арганізацыі, слухачы акадэмій і вучылішчаў Пецярбурга, афіцэры гарнізонаў Смаленска, Крычава і Магілёва. Страх перад імі быў настолькі моцным, што супраць трохсот паўстанцаў Магілёўшчыны расейцы накіравалі цэлую дывізію.

На чале паўстанцаў там стаяў капітан Людвік Звяждоўскі, які меў намер аб'яднаць шэсць ініцыятыўных групаў Віцебскай і Магілёўскай губерняў у адзін кулак і перанесці паўстанне ў цэнтральныя раёны імперыі, аж да Волгі.

Агульнае выступленне пачалося ў ноч з 5 на 6 мая. На Крычаў рушыла група Жукоўскага, каб захапіць размешчаныя там гарматы рэзервовай артылерыі. У Сенненскім павеце выступіў атрад Жаброўскага, у Быхаўскім — Анцыпы, у Рагачоўскім — Грыневіча і Дзержаноўскага, пад Оршай — Будзіловіча. Гэта былі групы ад 15 да 40 чалавек, і толькі атрад Звяждоўскага, накіраваны на Горы-Горкі, налічваў больш за сотню. Менавіта ён дзейнічаў найбольш паспяхова.

Па дарозе Звяждоўскі збіраў сялян, аддаваў ім усю зямлю, абяцаючы ліквідацыю рэкруцкіх набораў, павіннасцяў і свабоду веравызнання. У форменным шынялі афіцэра Генеральнага штаба, верхам на шэрым кані, Звяждоўскі захапіў Горы-Горкі, дзе да яго атрада далучыліся студэнты мясцовага інстытута. Устрывожанае расейскае камандаванне тэрмінова накіравала ў Магілёў, у дапамогу дзвюццаці ротам пяхоты, рэзервовыя батальёны і гвардзейскія кавалерыйскія палкі.

### Маўчы, а то будуць таўчы

Аднак мясцовае магілёўскае сялянства ў большасці заставася глухім да заклікаў паўстанцаў. Сяляне ведалі моц расейскай арміі, якая нядаўна душыла іх выступленні пасля адмены прыгону. Дый мужыкі не лічылі афіцэраў, што ўзначальвалі атрады паўстанцаў на Магілёўшчыне, «сваімі» — гэта былі чужыя, невядомыя людзі. На Гродзеншчыне, Віленшчыне або Міншчыне, дзе атрады збіралі памешчыкі, сяляне ішлі да паўстанцаў, бо ведалі «добрага пана», які быў іх заступнікам і бацькам.

Сяляне, навучаныя горкім вопытам гістарычнай памяці, чакалі выніку «бунту вайскоўцаў», каб стаць на бок пераможцаў. І лавілі яны паўстанцаў не таму, што былі «цара-бацюшкі» вернападданыя, а таму, што паўстанцы былі чужыя людзі, невядома якія і хто, да таго ж за іх капейку добрую зарабіць можна...

Карысталіся такой магчымасцю і памешчыкі: так, арандатар Караль Станкевіч з Люцынскага павета данёс уладам, што яго сусед, паручнік Антоні Рыцка, збірае паўстанцкі атрад. Даносамі завалілі дзяржаўныя ўстановы і габрэйскае насельніцтва. Пра жыхара Пружан Шмуйлу Кагановіча кіраўнік Гродзенскай канцылярыі Елапіеў паведамляў М. Мураўёву, што той «належыць да ліку габрэяў-спекулянтаў, якія апошнім часам свае просьбы і даносы ператварылі ў выгаднае для сябе рамяство. Наажываюць танным спосабам расейскія грошы».

### Фатальнае 8 мая

Фатальным для паўстанцаў Магілёўшчыны стала 8 мая. Менавіта ў гэты дзень быў разбіты атрад адстаўнога штабс-ротмістра Тамаша Грыневіча, арганізаваны ў яго маёнтку Тошчыца Рагачоўскага павета. Атрад двое сутак пераследавалі дзве роты рэзервнага смаленскага батальёна капітана Ягорава, пасля адбыўся бой... У выніку ў палон трапілі ксёндз Буген з Чачэрска, падпаручнік Станіслаў Дзержаноўскі (быў сасланы на катаргу на 12 гадоў) і Грыневіч (яго расстралялі ў Рагачове 28 ліпеня 1863). Тых, каму ўдалося ўратавацца, мясцовыя сяляне хапалі і выдавалі расейцам.

У той самы дзень, 8 мая, каля вёскі Пагосцішча рэгулярныя часткі палкоўніка Савіцкага разбілі атрад Ігната Будзіловіча. Перад бітвою некаторыя паўстанцы прапанавалі камандзіру скласці зброю. Той адказаў, што распусціць атрад, калі складуць зброю пагодзіцца пераважная большасць паўстанцаў, але асабіста будзе змагацца да канца.

### На следстве ўтойваў сваё прозвішча і не выдаваў іншых імёнаў

Будзіловіч нарадзіўся ў 1841 і паходзіў са шляхты Валынскай губерні. У 1859 скончыў Кіеўскі кадэцкі корпус, падпаручнікам паступіў на вайсковую службу ў Маскву, якую разам з Людвікам Звяждоўскім таемна пакінуў 19 красавіка 1863. На следстве сказаў: «Як паляк, я не хацеў у шэрагах войска змагацца супраць палякаў, таму вырашыў далучыцца да палякаў».

Ён узначаліў атрад і атрымаў загад забяспечыць падтрымку сялянства — нават коштам вешання памешчыкаў-прыгнятальнікаў; рухацца ў Смаленскую губерню, каб злучыцца са Звяждоўскім і ахапіць паўстаннем унутраныя раёны імперыі. Прыцягваў людзей у шэрагі паўстанцаў пад пагрозаю смяротнага пакарання. У выніку за некалькі дзён павялічыў атрад з 22 да 40 чалавек. Дзейнічаў пад мянушкаю Ян Піховіч, пашпарт жа меў на імя падпаручніка Каткова. На следстве ўтойваў сваё сапраўднае прозвішча і не выдаваў імёнаў і пасадаў кіраўнікоў паўстання. 9 верасня 1863 на расстрэле Ігната Будзіловіча ў Оршы прымусілі прысутнічаць амаль сем соцень салдат з розных палкоў.

### Растраляныя ў Магілёве

У маі былі схопленыя выпускнікі Полацкага кадэцкага корпуса: родныя браты харунжыя 22-гадовы Міхал і 21-гадовы Ян Манцэвічы і іх сябар 25-гадовы падпаручнік Уладзіслаў Корсак. Ураджэнцы Магілёўшчыны, яны разам служылі, разам сустрэлі смерць у Магілёве, расстраляныя 18 чэрвеня 1863.

Корсака пахавалі пры дарозе з Магілёва да вёскі Міжгор'е. У ноч на 17 верасня яго магілу раскапалі невядомыя. Але, спалоханыя блізка размешчаным пастом казакоў, пакінулі напалову выцягнутае цела паўстанца. Гэтым скарысталіся сабакі...

Разам з братамі Манцэвічамі і Корсакам у Магілёве расстралялі шляхціча Гродзенскай губерні Ільдэфонса Анцыпу, які камандаваў атрадам з 24 чалавек, разбітым 9 мая каля вёскі Язвы Быхаўскага павета.

### Сябры Жаброўскі і Алендскі

У Сенненскім павеце ўсяго некалькі дзён пратрымаўся атрад паручніка Канстанціна Жаброўскага (мянушка Костка). Яшчэ месяц да таго ён служыў у Пецярбургу, адкуль 16 красавіка разам са сваім сябрам Антоніем Алендскім адправіўся ў Беларусь для ўдзелу ў паўстанні. Жаброўскі быў расстраляны ў Барысаве 6 ліпеня.

Антоні Алендскі 9 месяцаў пускаў пыл у вочы следчым, спачатку хаваючы сваё сапраўднае імя, а пасля разыгрываючы вернага падданага Імперыі. Аднак прайграў. Сын адстаўнога капітана расейскай арміі, родам з Бельшчыны, у 1862 ён скончыў Маскоўскі кадэцкі корпус і быў накіраваны ў Пецярбург, у Міхайлаўскую артылерыйскую акадэмію. Пакінуў навучанне і вайсковую кар'еру, каб далучыцца да паўстання. Антонію Алендскаму было ўсяго 20 гадоў, калі а 9-й раніцы 11 красавіка 1864 яго расстралялі за прадуктовым складам у Мінску.

### Лепш скласці зброю, чым змагацца з мужыкамі

12 мая пад Прапойскам Быхаўскага павета быў акружаны расейскімі войскамі і атрад Звяждоўскага. Пасля адзінагалоснага рашэння паўстанцаў лепш скласці зброю, чым змагацца з мужыкамі, якія не былі настроеныя на карысць паўстання, Звяждоўскі распусціў свой атрад. 140 чалавек здаліся без ніводнага стрэлу і былі сасланыя ў аддаленыя куткі імперыі. Самому Звяждоўскаму ўдалося ўратавацца. Ён выехаў на эміграцыю, каб потым зноў вярнуцца, змагацца і быць павешаным.

Афіцэры, якіх пакаралі смерцю ў Беларусі, ішлі на змаганне не толькі таму, што былі «палякамі». Многія з іх, выхаваныя ва ўмовах асобнага вайсковага саслоўя і афіцэрскай свядомасці, былі звязаныя з расійскім дэмакратычным рухам, пад уплывам якога адчувалі адказнасць за абарону будучага не толькі жыхароў заходніх правінцыяў, але марылі аб утапічнай волі насельнікаў усёй Імперыі. На жаль, разуменне гэтага засталося далёкім для тутэйшых жыхароў. Як далёкімі засталіся і гэтыя чужыя афіцэры...



**Васіль Герасімчык**

Гісторык. Нар. 1987. Скончыў Гродзенскі ўніверсітэт, магістратуру Расійскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта і Торунскага ўніверсітэта імя Мікалая Каперніка. Пераможца конкурсу «Найлепшы знаўца паўстання Кастуся Каліноўскага».

# Дацзыбао паводле

Піша **Франц Сіўко.**

**А.**

*Ах, вазьміце вы кавалак тэлефоннага проваду ды павесьцеся вы на першым, што трапіцца, тэлеграфным слупе! Больш вам нічога не застаецца рабіць!*

**А.** Чэхаў. У Маскве

Службовец А. вызваліў ужжнае начальніцкае крэсла праз дзесяць год па дасягненні пенсійнага ўзросту. І тут жа ўладкаваўся з ласкі службоўца большага, даўняга сябрука, на няпыльную пасаду кіраўніка аддзела непрыкметнай, быццам знарок для гэткіх «учорашніх» створанай, канторы. Прывалокшы на новае месца разам з целам усе свае звычкі, спешчаны ліслівасцю і падхалімствам ранейшых падначаленых, дня не можа пражыць без таго, каб не згрузіць на каго-небудзь з падначаленых цяперашніх сёе-тое са сваіх працоўных абавязкаў. Згрузіць з тою ўласціваю кадрам пэўнага кшталту непрабівальнай ветлівасцю, што і рогаў службовага хамства надта ўжо ваяўніча не прадэманструе, і адначасна і найменшага пярэчання не пацерпіць і не даруе. «Ніначка Пятроўна, дзевачка мая дарагая, дырэктар загадаў паперчыну да серады аформіць, а вы ж ведаеце — я яшчэ сыраваты ў тутэйшых папяровых справах, то баюся, як бы чаго не так не зрабіць. Дык ужо аформіце вы, як мінулым разам — памятаеце? — тую квартальную справаздачу гэтак дыхтоўненька, з густам аформілі». Дзядку без тыдня семдзесят, жвавасці не займаць, аднае бяды, што ў працы «сыраваты» ды з тае прычыны, адпаведна, што і як рабіць — не ведае.

**Б.**

*Нябожчыкі сораму не маюць, але смярдзяць страшна.*

**А.** Чэхаў. З нататнікаў

*Калі ў нас з'яўляюцца дзеці, то ўсе слабасці...мы апраўдваем так: гэта дзеля дзяцей.*

**А.** Чэхаў. З нататнікаў

Не ў прыклад узнёслай назве сам тэкст некралога па спачылым Б. даўгі і нудотны, як змесціва бухгалтарскай кнігі, што згубілася калісьці ў пыльным чэраве офіснае шафы і вось цяпер ляжыць, выбаўленая, нарэшце, з цянётаў павуціння, у марным чаканні хоць якога ахвотніка яе пагартаць. Дакумент-прыпіска — апошняя даніна жывых згасламу змагару з прыпіскамі. Нябожчык пры жыцці так апантана імітаваў ваярства з гэтым усюдыісным злом, што і не заўважыў, як сам зрабіўся яго ахвяраю. Зрэшты, ахвяраю ў вачах іншых, але не сябе. Ці то памяць Б. змізарнела, звёўшы да «нуль-пазіцыі» абсягі ўяўлення аб правілах барацьбы з хібамі грамадскага ўладкавання, ці то дала плён нязводная ў чыноўніцкім асяродку звычка круціць з кожнае нагоды духамі, але ў дзясятак разоў большы за падначаленых заробак пры гэткіх жа, як у іх, фізічных, энергетычных, эмацыйных ды іншых выдатках ні кішэні, ні сумлення яму не муляў. Дзверы з зямное юдолі ў свет горні расчыніліся перад Б., як вынікае з падпісанага мясцовым бамондам некралога, «заўчасна — усяго толькі на 77-м годзе ад народзінаў». Ды яшчэ — вось жа гадства — зусім не ў пару, акурат напярэдадні юбілею. Ва ўстанове, дзе ён так шмат год спраўна шчыраваў на карысць айчыны, душачы паралельна з выкананнем службовых абавязкаў любую праяву нязгоды і вальналюбства, і грошы ўжо на прэзент да знамянальнага дня сабралі, і панегірыкі склалі для ўшанавання, і на табе — сюрпрыз. Страта невымерная і незамянная, колькіх людзей мог бы яшчэ чалавек сваёю прысутнасцю на грэшнай зямлі ашчасліввіць, як ашчасліўліваў, застаючыся з лёгкай рукі высокіх апекуноў на адказнай пасадзе пасля двух інсультаў і трох аперацый, уласных дзяцей ды ўнукаў.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**В.**

*Але не бянтэжцеся іх арліным выглядам. Гэта не арлы, а пацукі або сабакі.*

**А.** Чэхаў. З нататнікаў

Ці то лёс здрадзіў, ці то сурокі нядобразычліўцаў падзейнічалі, але В., у адрозненне ад Б., якому пашчасціла сысці з гэтага свету наўпрост з працоўнага месца, пад хор хваласпеваў і пару тузінаў набытых за казённы кошт вянкоў і вянушкаў, не пашанцавала — ён яшчэ жывы, ды ўжо не пры пасадзе. І цяпер, паніжаны да рангу хлопчыка для біцця, паныльым ценем шлындае, варты жалю, па калідорах установы, якую шмат гадоў узначальваў, ды вышуквае хібы ў метадах кіравання пераемніка, ды хінецца-плішчыцца да кожнага, хто толькі гатовы яго слухаць. Няма таго, што раньш было, — лейтматыў варункаў яго-нага існавання ў дні сённяшнім. І паводзінаў: за ўсе гады займання высокай пасады В., перакананы, што яго прафесія да ліку тых, дзе важны хоць які людскі ўчынак, не адносіцца, ані разу не быў такі добры да людзей, як зараз, калі пасаду страціў. Фізія ўвадначас палагаднела, і голас памякчэў, і нават жэстыкуляцыя перамянілася — да чалавека стаў падобны. Той выпадак, калі, перафразуючы класіка, можна сказаць, што не з матылька вусень атрымліваецца, як нярэдка — насуперак закону эвалюцыі — у людзей, а наадварот — з вусеня матылёк, як, згодна з тым жа натуральным законам, у насякомых*. І ў дачыненні да асобы хоць якіняякі з'явіцца шанец у тых, хто быў сведкам яго прыжыццёвых паскудстваў, не ўвайсці ў канфлікт з уласнай хрысціянскай сутнасцю, не апаганіць вуснаў прамоўленымі наўздагон абсыпанаму тузінамі вянкоў-вянушкаў катафалку словамі класіка другога: «Яно здохла»**.

**Г.**

*— Не, сястрыца, размова ў нас прынцыповая...*

**А.** Чэхаў. З нататнікаў

«А што гэта такое? А вось тое мне пакажыце. А ці добрае яно? А як яго ўжываць? А хто вытворца? А дайце інструкцыю. А што ёсць з таннейшага? А мне суседка ўчора казала, А...» і г.д. — да бясконцасці. У выніку, з улікам часу на даставанне з сумкі партманета з грашыма, ды тузанне сюды-туды купюр, ды іх лічэнне-пералічванне, ды чытанне-перачытванне інструкцыі, ды рэплік на адрас знерваванай чаргі ў перапынках між лічэннем, на ўсё пра ўсё марнуецца каля паўгадзіны. Мізансцэна хаосмасу тупізны, а да заслоны спектакля не рукой падаць. Бо, адсунуўшыся ўрэшце ад акенца, Г., замест таго, каб канчаткова сысці, пачынае атакаваць аптэкарку новымі пытаннямі. «Ну што яшчэ вам?» — з кепска прыхаваным за інтанацыяй ветлівасці пажаданнем *ідзіце ўжо і частуйце вашым вар'яцтвам іншых****, кажа тая і роспачліва глядзіць на далонь з рэцэптам наступнага кліента.

**Д.**

*...бабы з п'есамі плодзяцца не па днях, а па гадзінах...*

**А.** Чэхаў. З ліста да Т. Шчэпкінай-Купернік

Баба з неўтаймоўнай схільнасцю да скаргапісання, даносаў і іншых неэкзатычных відаў какання ў чужы кампот чытае з экрана тэлевізара вершыкі і з уздымам распавядае пра тое, як днямі разрадзілася ў выніку начнога творчага азарэння рыфмаваным прадуктам, а назаўтра гадзіны паўтары частавала тым прадуктам слухачоў падчас літімпрэзы. Затым ненавязліва, бы між іншым, адкрывае Амерыку: паэта-барда З., аказваецца, за савецкім часам з ласкі чыноўніка М. не пускалі ў аўдыторыі ладзіць творчыя сустрэчы, і яна, маўляў, мае намер гэткай ганебнай практыцы рашуча супрацьстаяць. Як яна такі намер будзе ажыццяўляць — невядома, бо толькі ўжо зусім дурны не ў курсе, колькі сама баба разам са сваімі хаўруснікамі панаторквала калегам на шляху да тых самых аўдыторый асцюкавіння ў выглядзе негалосных і галосных забаронаў. Галоўная бабіна фішка ў змаганні з няўгоднымі, якою яна карыстаецца дзе і як толькі можа, — дэманстраванне бязмежнага, без берагоў і краю, патрыятызму. Найзапаветная ж мара бабіна, як вынікае з тэлерэплік, — усе павінны кінуць усе справы ды выключна чытаць яе прасякнутыя ідэямі дабра, любові і чалавечнасці тварэнні. А найбольш абыходзіць бабе тое, што пры гэткай канцэнтрацыі ў тых вершыках высокага духоўнага пачатку, хоць ты распаражыся, не выяўляе свет да іх цікавасці. Баба літаральна запоўніла сваёю постаццю тутэйшыя літабшары. У які таблоід ні паткніся — скрозь бабіна мосць. І каму, апроч самой бабы, увесь гэты псеўдатворчы аргазм патрэбны — аднаму хіба д'яблу вядома.

**Е.**

*Ішоў па вуліцы такс, і яму было сорамна, што ў яго крывыя лапы.*

**А.** Чэхаў. З нататнікаў

Лекарка — дама без залішніх цырымоній, але і без прэтэнзій. Цэлы дзень шчыруе пры чужых горлах, насах і вушах, к вечару, натомленая не гэтак самою працай, як выслухоўваннем ад пацыентаў рознае лухты, бярэ прыладу для рэзекцыі насовых перагародак, усторквае на яе шматок ваты і пачынае чысціць свае аздобленыя золатам-срэбрам вушы. Са смакам казыча штырком у вуху ды разважае ўслых пра вытокі татальнае айчыннае неінтэлігентнасці. «Ну вось адкуль ёй, той інтэлігентнасці, ува мне, напрыклад, узяцца? Паходжу з вёскі, дзяды — сяляне, бацькі — таксама. Ну, пашэнціла шэсць год павучыцца ў інстытуце, але хіба гэтага дастаткова, каб стаць інтэлігентам? Вунь даўнейшыя інтэлігенты колькі каленаў папярэднікаў-інтэлігентаў у радаводзе мелі, а і то не заўжды ўсё па-інтэлігентнаму ў іх атрымлівалася... А што ўжо пра нас казаць...» І, скончыўшы справу з падтрыманнем гігіены вушэй, быццам насуперак моўленаму дагэтуль, дадае: «Інтэлігентнасць — гэта, мусіць, як каханне. Ёсць яно — значыць ёсць, няма — значыць няма. І нічога тут не перайначыш, колькі ды як ні старайся. Канечне, інтэлігенту быць неінтэлігентным сорамна. Але што той сорам? Сорам сорамам, а жыць трэба».

**Ё.**

*— Я ў сябе пасеяў віку з аўсом.*

*— Дарэмна. Лепш бы пасеялі канюшыну.*

*— Я завёў свінню.*

*— Дарэмна. Лепш бы каня.*

**А.** Чэхаў. З нататнікаў

Быццам і не касее чалавек, а з нітак зайздрасці сатканы дазвання. Калі атрымалі з сябрам па суседстве, у адным і тым жа пад'ездзе, па аднолькавай кватэры, доўга сядзеў, прывалокшыся надвячоркам на агледзіны, побач з гаспадаром, уздыхаў, а на развітанне адно што не ўсхліпнуў па-бабску ды сказаў: «Не ведаю, як насамрэч, але мне ўсё здаецца, што табе на лепшае жытло пашэнціла. Падлога тут у цябе нейкая быццам раўнейшая, і столь, глядзі, вышэйшая, і плінтусы прамейшыя, і наогул...». Ад зайздрасці — усё ўспрымае ў штыкі, усё кажа і робіць насуперак, на злосць. І ўсе саступкі, усе форы, колькі іх ні давай, каб зменшыць той зайздрасці градус, — без выніку. Адзінае, бадай, чым можна было б неяк хаця б збольшага чалавека ўлагодзіць, узяць ды заўчасна памерці. Але хто пагодзіцца?

* — А. Чэхаў. З нататнікаў.

** — Ф. Кафка.Ператварэнне.

*** — Дж. Нікалсан.

## ГАНДБОЛ

### БГК — «Нэксе»




**9 лістапада ў Брэсце** мясцовы гандбольны клуб БГК імя Мяшкова прымае харвацкі «Нэксе» з горада Нашыце. Пачатак а 19.

## ФУТБОЛ

### Тур 30

**9-10 лістапада** пройдуць чарговыя матчы чэмпіянату краіны па футболе. У суботу сустракаюцца:
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — БАТЭ (Барысаў);
«Шахцёр» (Салігорск) — «Дынама» (Мінск);
«Нафтан» (Наваполацк) — «Дняпро» (Магілёў).
**У нядзелю**:
«Нёман» (Гродна) — «Гомель»;
«Славія» (Мазыр) — «Мінск»;
«Белшына» (Бабруйск) — «Дынама» (Брэст).

## КАНЦЭРТЫ

### Піт Паўлаў

**6 лістапада а 19-й у рок-бары «Крылы» (Даўгабродская, 24)** — творчая сустрэча з Пітам Паўлавым напярэдадні дня народзінаў музыкі.

### Аляксандр Баль

**7 лістапада а 19-й у к/з «Мінск»** — канцэрт Аляксандра Баля.

### Эніа Марыконе

**8 лістапада а 20-й у «Мінск-Арэне»** — канцэрт Эніа Марыконе.

### Змяя

**9 лістапада а 19-й у клубе Underground (пр.Незалежнасці, 19)** — прэзентацыя альбома гурту «Змяя».

### Deep Purple

**10 лістапада а 19-й у «Мінск-Арэне»** — канцэрт гурту Deep Purple.

### Tiger Lillies

**10 лістапада а 19-й у Re:Public (Прытыцкага, 62)** — канцэрт гурту Tiger Lillies (Вялікабрытанія).

### Дзяніс Балахонаў і Юрась Ускоў

**10 лістапада ў «Крылах» (ДК МТЗ)** — вялікі супольны блюзавы канцэрт з удзелам музыкаў гурту «Big Daddy Blues» з выкананнем блюзавай класікі 30—50-х гадоў.

### Канцэрт «Аркестра Глена Мілера»

**12 лістапада а 20-й у Палацы Рэспублікі** — канцэрт «Аркестра Глена Мілера».

### N.R.M

**15 лістапада а 19-й у клубе «Юла» (Сурганава, 26)** адбудзецца прэзентацыя новага альбома гурту N.R.M. «ДПБЧ».

### Стары Ольса

**17 лістапада а 19-й у ДК МАЗ (пр. Партызанскі, 117а)** — гурт «Стары Ольса» прэзентуе новы альбом «Santa Maria».

### Алесь Камоцкі

**17 лістапада а 19-й у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі** — канцэрт для сяброў Алеся Камоцкага.

## ВЫСТАВЫ

### Сучасны японскі дызайн

**Да 24 лістапада ў гістарычным музеі** працуе выстава «Сучасны японскі дызайн», на якой можна ўбачыць лепшыя ўзоры прамысловага дызайну Японіі 1990—2000, а таксама прадметы дызайну паваеннага перыяду. Гэта прадметы штодзённага ўжытку: мэбля, вопратка, посуд, электрычныя прыборы…

### Выпадкова з мэтай

**У мастацкай галерэі твораў Л.Шчамялёва (пр.Ракасоўскага, 49)** да 14 лістапада працуе выстава «Выпадкова з мэтай», на якой прадстаўлены фотаздымкі невядомай Каліфорніі спадара К. Фотаздымкі былі зроблены падчас шматгадзінных пешых вандровак па нацыянальным парку Маўнт.

### Прысвячаем маці

**Да 27 лістапада ў гістарычным музеі працуе выстава** «Прысвячаем маці» — сумесны выставачны праект з мастаком Аляксеем Кузьмічом. Эмацыянальным акцэнтам выставы стануць фотаздымкі, асабістыя лісты і вершы знакамітых беларускіх паэтэс і актрыс Еўдакіі Лось і Аляксандры Клімавай да сваіх сыноў.







## ІМПРЭЗЫ

### «Лятучы стол Караткевіча»

Цэлы лістапад раз на тыдзень у кнігарні «логвінаЎ» і галерэі «Ў» (пр. Незалежнасці, 37а) будуць адбывацца літаратурныя, музычныя і мастацкія імпрэзы, прысвечаныя Уладзіміру Караткевічу, з удзелам паэтаў, спевакоў і мастакоў.

**6 лістапада** ў кнігарні «логвінаЎ» а 19-й — «Сакрэты зайцаўпівавараў», зусім неафіцыйнае, але, тым не менш, дужа ўрачыстае адкрыццё фестывалю «Лятучы стол Караткевіча». Пра свайго Караткевіча раскажуць Адам Глобус, Уладзімір Арлоў, Кася Камоцкая, Анатоль Івашчанка і Антон Рудак.

**9 лістапада** тамсама а 19-й — прэзентацыя дзіцячага комікса Адама Глобуса «Дзікае паляванне і кароль Стах». Малявальны майстар-клас для дзетак правядзе мастачка Наталля Гарачая.

**12 лістапада** ў галерэі «Ў» а 19-й — Зміцер Вайцюшкевіч сыграе свае песні на вершы Караткевіча з альбома «Беларуская песня».

**19 лістапада** ў кнігарні «логвінаЎ» а 19-й — Karatkievič international. Гэтым разам імпрэза прысвечана перакладам твораў Караткевіча на замежныя мовы.

**26 лістапада** тамсама а 19-й — заключная імпрэза «Быў. Ёсць. Буду». Выдавецтва «Мастацкая літаратура» прадставіць першыя чатыры тамы поўнага збору твораў Уладзіміра Караткевіча. Уваход на ўсе імпрэзы — вольны.

## ТЭАТРЫ

### 6 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»
**Оперы і балета** — «Вітаўт»

### 8 лістапада

**Оперы і балета** — «Мадам Батэрфляй»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»

### 9 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Няўваны госць»
**Оперы і балета** — «Папялушка»

### 10 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Воўк-марапалавец»
**Оперы і балета** — «Папялушка»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»

### 12 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Раскіданае гняздо»
**Оперы і балета** — «Турандот»

### 13 лістапада

**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»

### 14 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Няўваны госць»
**Оперы і балета** — «Травіята»

### 15 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Няўваны госць»
**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»

### 16 лістапада

**Юнага гледача** — «Сакрэт сапраўднага сяброўства»
**Беларускай драматургіі** — «А мне не сорамна»
**Оперы і балета** — «Кармэн»

### 17 лістапада

**Юнага гледача** — «Сакрэт сапраўднага сяброўства»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»

## КІНО

### Калі мужчыны плачуць

Дарадца
Крымінальная драма, трылер
**Рэжысер:** Рыдлі Скот
**У ролях:** Міхаэль Фасбендэр, Брэд Піт, Пенелопа Круз, Кэмеран Дзіас, Хаўер Бардэм
ЗША, Вялікабрытанія, 111 хв.

Адвакат па мянушцы Дарадца вырашае правярнуць буйную аферу дзеля грошай: ён заказаны і хоча ажаніцца з прыгажуняй Лорай. Ён плануе пасадзейнічаць перавозцы з Мексікі ў Амерыку і збыце партыі какаіну. Яго сябры, Вэстрэй і Райтэр са сваёй каханкай, таксама бяруць удзел у справе, але па-рознаму: у кавярнай жанчыны свае таемныя планы. Дарадца і яго сябры аказваюцца шчыльна ўцягнутымі ў справы мексіканскага наркакартэля. Новы фільм культавага рэжысёра Рыдлі Скота («Гладыятар», «Чужы») даследуе маральную праблему саўдзелу ў злачынстве. Фільм пабудаваны на дыялогах паміж героямі: найярчэйшыя зоркі кінематографа паказваюць выдатнае акцёрскае майстэрства. Атмасфера напружаная, таемная, зацягвае, трымае да канца. Некалькі яскравых маналогаў часам скатваюцца ў маралізатарства, але яны ж надаюць фільму асаблівую глыбіню. Як знайсці выхад в няпростай, смяротна небяспечнай сітуацыі — з такой праблемай сутыкнуліся трое розных па характары мужчын. Магчыма, тут ад асабістага выбару нічога не залежыць. Рэжысёр не пакідае месца для аптымізму.

**Настасся Уласава**



# «Беларусь-5»: Тэлеканал ёсць, але ніхто яго не бачыць

У нядзелю 3 лістапада склалася парадаксальная сітуацыя, калі большасць жыхароў краіны не змаглі пабачыць у жывым эфіры цэнтральны матч 29 тура футбольнага першынства паміж БАТЭ і «Шахцёрам». У выпадку перамогі барысаўцы маглі стаць чэмпіёнамі краіны.

Гульня скончылася з лікам 2:2. Прычым, выйгравалі і адыгрываліся абедзве каманды. Трансляцыя ў жывым эфіры вялася на тэлеканале «Беларусь-5». Аднак доступ да яго пакуль што маюць толькі гледачы з Мінска.

Калі БАТЭ — «Шахцёр» яшчэ можна было зірнуць у інтэрнэце, то трансляцыю баскетбольнага матча паміж «Цмокамі» і ЦСКА толькі на «Беларусь-5».

Мы звярнуліся да кіраўніка Дырэкцыі тэлеканала «Беларусь-5» Белтэлерадыёкампаніі Паўла Булацкага, каб ён патлумачыў некаторыя моманты.

**«Наша Ніва»: Спорт знікае з былога «Ладу»? Чаму не было арганізавана трансляцыі матчаў БАТЭ — «Шахцёр» і «Цмокі» — ЦСКА?**

**Павел Булацкі:** Футбол паказвалі, але ў запісе. Трансляваць баскетбол пасля футбола ўжо палічылі нематазгодным. Трансляцыі з «Беларусь-2» нікуды не знікнуць, яны застануцца, аднак час будзе ссунуты. На «Беларусь-5» мы зацікаўленыя ў большай колькасці прамых трансляцый.

**«НН»: Ваш намеснік Вадзім Левада гаварыў аб тым, што да 1 студзеня тэлеканал «Беларусь-5» будзе даступны абсалютна ўсім. Гэта рэальна?**

**ПБ:** Не ўсё залежыць ад нас. Робім тое, што можам рабіць. На сёння «Беларусь-5» ёсць у пакетах такіх кабельных сетак, як МТІС, «Космас-ТБ», Zala, «Аксіёма». Гэта самыя буйныя кампаніі. Сёння прапрацоўваем пытанне аб доступе да абласных цэнтрах.

**«НН»: А ці ёсць нейкая канкрэтная лічба, колькі сёння людзей можа праглядаць тэлеканал?**

**ПБ:** Баюся памыліцца. Лепш за ўсё звярнуцца да кабельных аператараў. Аднак наколькі памятаю, нават у таго ж МТІСа больш за 400 тысяч абанентаў.

**«НН»: Вядомыя спартыўныя журналісты Сяргей Новікаў і Максім Беразінскі крытыкавалі працу «Беларусь-5» за тое, што трансляцыі пачаліся, а з кабельнымі кампаніямі не дамовіліся. Справядлівая крытыка?**

**ПБ:** Заўважу, аб афіцыйным адкрыцці мы нідзе не трубілі . Толькі паведамілі пра тое, што з 21 кастрычніка канал пачаў вяшчаць не ў тэставым , а ў эфірным рэжыме. Некалькі пазней мы меркавалі абвясціць дату афіцыйнага адкрыцця і запусціць вялікую рэкламную кампанію. Але за нас гэта зрабілі СМІ, Раздутыя вялікі скандал. Цяпер мы вымушаны ў тэрміновым парадку рабіць тое, што першапачаткова ў нас было намечана як планамерная праца Зрэшты, ідзе рабочы працэс. Перад намі пастаўлена задача — адкрыць канал да 1 студзеня 2014. Думаю, што ўсю работу па падлучэнні мы скончым ў пачатку снежня.

**«НН»: Хутка пачынаецца біятлонны сезон. Гонкі будуць трансляваца толькі на «Беларусь-5»?**

**ПБ:** Не, трансляцыі застануцца і на «Беларусь-2». Праўда, ці будзе гэта жывы эфір, ці не, я не ведаю.

**«НН»: Адносна планаў. Ці плануецца трансляцыя гонак «Формулы-1», матчаў НБА і НХЛ?**

**ПБ:** Усё гэта ў стадыі апрацоўкі. Што тычыцца «Формулы-1», то сезон пачынаецца толькі ўвесну. Адносна НБА абмяркоўваем гэтае пытанне, ідзем адзін аднаму на саступкі. Разумеце, бюджэт у нас даволі абмежаваны, таму атрымаць усе трансляцыі, якія нам бы хацелася, пакуль мала рэальна.

**«НН»: А што адносна нацыянальнага футбольнага чэмпіянату. Колькі гульняў можна будзе ўбачыць па тэлевізары ў наступны год?**

**ПБ:** Яшчэ не скончыўся гэты чэмпіянат. Нам трэба будзе падпісаць новае пагадненне аб трансляцыі матчаў. Асабіста мне хацелася б, каб іх было больш за адзін. Аднак трансляваць усе гульні тура, як у Расіі, мы не маем магчымасці.

**«НН»: Адносна беларускай мовы. Як яна будзе прадстаўлена на «Беларусь-5»?**

**ПБ:** У той час, як з вамі размаўляем, на тэлеканале паказваецца футбольны матч «Арсенал» — «Ліверпуль», які транслюецца па-беларуску. На дадзены момант беларускай мовай карыстаюцца толькі Павел Баранаў і Дзмітрый Герчыкаў. Аднак калі з'явяцца іншыя людзі, то ні ў чым абмяжоўваць іх не будзем.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**




**Што паказваюць?**

**Футбол:** Ліга чэмпіёнаў, Ліга Еўропы, Чэмпіянат свету, Чэмпіянат Еўропы, Чэмпіянат Беларусі, Чэмпіянат Англіі, Кубак канфедэрацыі, гульні зборнай Беларусі.

**Хакей:** КХЛ, Чэмпіянат свету, Чэмпіянат Беларусі, таварыскія гульні зборнай.

**Баскетбол:** Адзіная ліга ВТБ.

**Біятлон:** Кубак свету, Чэмпіянат свету.

**Лёгкая атлетыка:** Чэмпіянат свету.

**Тэніс:** Турніры WTA, турніры Вялікага Шлема.

**Гандбол:** Ліга чэмпіёнаў, Чэмпіянат Беларусі.

Алімпійскія гульні.

**Цытата**



**Хадасевіч: Лічу неабходным перайсці на беларускую мову**

Каментатар Мікалай Хадасевіч аб досведзе трансляцый спорту па-беларуску.

«Гэта ўспрымалася аўдыторыяй тэлеканала «Беларусь-2 », дзе былі гэтыя трансляцыі, не тое што добра, а вельмі добра. Ёсць другі момант: ці гатовыя падхапіць гэтую ініцыятыву іншыя каментатары. Для гэтага патрабуецца шмат падрыхтоўкі, часу і ўнутранай арганізацыі. За калег адказваць не буду, але ў перспектыве, што тычыцца мяне, лічу неабходным перайсці на беларускую мову. Вялікая канцэнтрацыя працы гэтаму паспрыяе».

**Хто каментуе**

**Уладзімір Навіцкі** — футбол, хакей, біятлон

**Павел Баранаў** — футбол, бокс (на беларускай мове)

**Аляксандр Цвячкоўскі** — футбол, хакей, гандбол, валейбол

**Сяргей Новікаў** — футбол, гандбол

**Сяргей Мацкевіч** — футбол, валейбол, тэніс, лёгкая атлетыка

**Аляксандр Дзмітрыеў** — футбол, хакей

**Аляксандр Казюкевіч** — лёгкая атлетыка, біятлон, баскетбол, тэніс

**Улада Сарокіна** — мастацкая і спартыўная гімнастыкі, водныя віды спорту

**Мікалай Хадасевіч** — футбол

**Святлана Парамыгіна** — біятлон

**Дзмітрый Герчыкаў, Аляксей Пынцікаў** — баскетбол

**Валерыя Філяева** — тэніс

**Фотафакт**




**«Бостан Рэд Сокс» у восьмы раз сталі пераможцамі сусветнай серыі па бейсболе. У фінальнай серыі пераможаным аказаўся «Сэнт-Луіс Кардыналс». У ЗША бейсбол — гэта другі па папулярнасці від спорту пасля амерыканскага футбола. У Беларусі папулярная гульня лапта — далёкі сваяк бейсбола.**

## Сцісла

### Маладыя хакеісты адмовіліся гуляць за Беларусь

17-гадовыя Вадзім Атрахімовіч і Уладзіслаў Ланавенка накіравалі ў Беларускую федэрацыю хакея лісты, дзе паведамляюць аб сваёй адмове выступаць за Беларусь. Абодва хлопцы выхаванцы наваполацкага хакея, аднак цяпер выступаюць у Расіі.

### Канадзец будзе гуляць за Беларусь

Хакеіст мінскага «Дынама» Джэф Плат правёў першую трэніроўку ў майцы нацыянальнай зборнай Беларусі. Плату 28 гадоў, апошнія пяць сезонаў ён выступае за сталічных «зуброў».

### Беларуска выйграла турнір у Нанце

Тэнісістка Аляксандра Сасновіч у фінале перамагла польку Магду Лінет. Турнір у Нанце меў прызавы фонд 50 тысяч даляраў. Гэта ўжо другая запар перамога Сасновіч. Яна ўзляцела ў сусветным рэйтынгу з 239-га радка на 135-ы.

### БАТЭ хопіць аднаго пункта

Пасля нічыёй з салігорскім «Шахцёрам» (2:2) барысаўскаму БАТЭ застаецца набраць усяго адзін пункт у трох сустрэчах, каб стаць дзесяціразовым чэмпіёнам Беларусі па футболе.

### Холіфілд супраць Тайсана

Магчыма, зоркі сусветнага бокса зноў сыдуцца на рынгу ў Маскве. Майку Тайсану 47 гадоў, Холіфілду — 51. Некалі Тайсан адкусіў у суперніка кавалак вуха.

### Чыпсы і папкорн ад ХК «Гомель»

Заўзятары хакейнага клуба «Гомель» цяпер на гульнях сваёй каманды заўсёды змогуць набыць чыпсы і папкорн з эмблемай клуба. Прадукцыю стала выпускаць кампанія «Поўнач».

ЗП



СЯРГЕЙ ЗІНІН

**Беларусы адзначылі Дзень памяці продкаў Дзяды. На фота: каталіцкія вернікі ў вёсцы Уселюб Навагрудскага раёна 2 лістапада. Пасля імшы працэсія пайшла на могілкі, дзе ксёндз Дзмітры асвяціў магілы памерлых.**



**Расцяжка маладых японскіх сумаістаў.**



**Журналісты ўпершыню за 25 гадоў сфатаграфавалі ўдаву Лі Харві Освальда — былую мінчанку Марыну Прусакову. Цяпер ёй 72 гады.**

**На плошчы Якуба Коласа запрацавала мабільная бібліятэка з вялікай колькасцю беларускай класікі. Акцыю зладзіў аператар мабільнай сувязі.**




ЗМІЦЕР ПАНКАВЕЦ

## Анекдоты і жарты

* * *

Лідары вядучых сусветных дзяржаў абураныя праслухоўваннем іх размоваў амерыканскімі спецслужбамі.

Але яшчэ больш абураныя лідары дзяржаў, якіх ЗША не праслухоўвалі.

***

Увесь свет — тэатр.
І людзі ў ім акцёры.
А спецслужбы — гледачы.

***

Калі вы заблукалі ў лесе, то агледзьце з усіх бакоў найбліжэйшае дрэва. Калі гэта пальма — то вы на Поўдні.

***

У Казіка былі дзве прычыны, па якіх ён не дазваляў сваёй дзяўчыне ездзіць на яго «Поршэ». У яго не было дзяўчыны і не было «Поршэ».

***

Запісаўся на курсы гіпнозу. Але ўжо першы занятак спадабаўся: я адразу ж захацеў заплаціць на год наперад і не прыходзіць больш туды.

* * *

Аднойчы я наступіў на ката і з размаху сеў на гітару. Так я зразумеў, як Стас Міхайлаў піша свае песні.

* * *

Сапраўдны сучасны мужчына заўсёды робіць крок першым — лайкае фотку.

## «НН» сто гадоў з вамі

**З-пад Парафіянава.** Прыехаўшы ў сваю старану, у каторай даўно не быў, пабачыў я, што старонка гэта пачынае прыпаднімацца з векавой цемнаты, пачынае крацаца. Ужо ёсць у нас сяляне, каторыя і штучныя навозы купляюць, хоць, праўда, не так шмат такіх ёсць. А тыя, каторыя яшчэ не купляюць, пачынаюць думаць аб тым, каб купляць.

**«НН». №45. 1913.**

**Галадоўка імя дэкрэту №4.** Так, Аўтуховіч — сапраўдны кіт у бізнэсе не вельмі вялікага Ваўкавыска. Яму асабіста належыць 18 машын «радыётаксі». Але што за недарэчныя зачэпкі? «Ніка-транс» і Аўтуховіч знаходзяцца ў суседніх памяшканнях. Заснавальніца «Ніка-трансу» — жонка прадпрымальніка. Кіроўцы працуюць у яго паводле дамоўленасцяў не так даўно, да гэтага вымусіў чацвёрты дэкрэт прэзідэнта (прадпрымальнік не можа мець больш за трох наёмных працаўнікоў). Вось дзе закапаны сабака.

**«НН». №41. 2003.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by
**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8100. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 05.11.2013.
Замова №4901.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
9 771819 161008 13041